Потым, калі машынай падвозіў сына на вакзал, да электрычкі, той усё лез пад рукі: “Ну ты падняўся! Не, ты, ты... ”

– Баця, побач з такой тачкай – ты салідны! Шчыра скажу. Ганаруся. Паважаю. Дай, абдыму цябе!..

Абняў, пацалаваў, пайшоў да перона хуткай хадой дзелавога чалавека. Расхлістаны, бесталковы... Адольф сеў у машыну (сесці... адрэгуляваць сядзенне і нахіл спінкі... нахіл рулявой калонкі... люстэркі задняга віду...)

“Пахудзеў!” А сама хварэе... А ён думаў уразіць яе здымкамі, Парыжам, дачай, шашлычкамі ды машынамі – “раскошаю”. А яна толькі і заўважыла, што пахудзеў. За год адно слова. І гэтае слова пераважвала ўсё – усе яго набыткі, поспехі, жарсці, выкрыванні, праблемы.

У Адольфа ледзь слёзы не выступілі. І палезла ў галаву розная сентыментальная драбяза. Напрыклад, як яна, сірата, плакала ад шчасця, калі ён зрабіў ёй прапанову. Або як ён аднойчы у час “выкрывання” змахнуў са стала любімы жончын кубак, разбіў яго, а яна толькі і сказала: “На шчасце”. Як ездзіла да яго ў бальніцу праз увесь горад.

Ён з нейкай мазахісцкай упартасцю пачаў успамінаць адно за адным нязначныя, маленькія выпадкі, дэталькі, эпізоды. Як яна была цяжарная сынам і ціха дзялілася з мужам, што ад такога таленавітага бацькі абавязкова народзіцца незвычайны, адораны сын... А як яна радавалася, калі ён купіў мапед і зможа цяпер выязджаць “на натуру”, маляваць акварэлькі! Заўсёды перахрышчвала яго перад кожнай паездкай, каб не трапіў у аварыю... Смешная! Мо таму ніколі і не патрапіў, нават паддаты.

Ён успамінаў – і расчульваўся. Як усё адносна, як умоўна. Сядзець у “Вольве” і з пяшчотаю ўспамінаць мапед... Бачыла б яна яго цяпер... І тут упершыню ў яго курынах мазгах раптам праскочыла людская думка – узяць вось зараз ды рвануць на кальцавую, а там у гарадок на Дняпры! Зайсці, стаць на...

Яму пастукалі ў шкло: давай, ад’язджай! Ён паслухмяна крануўся. Робячы левы паварот, ледзь-ледзь размінуўся з трамваем. Іскры з дроту, віскат чыгунных колаў аб рэйкі... Ён пакорліва праглынуў: “Чмо!!!” – і яшчэ некалькі мацюкоў наўздагон ад раз’юшанай жанчыны-кіроўцы, што высунулася да пояса ў акно. Толькі калі ад’ехаў далёка ад вакзала, працадзіў праз зубы:

– Маё шанаванне.

Калі Тома зайшла ў кватэру, ёй адкрылася такая карціна: мальберт, выпэцканыя анучкі, фарбы, цюбікі, грунтоўка, пэндзаль...

На сталe амаль пустая бутэлька гарэлкі. Адольф сядзеў, падціснуўшы пад сябе босыя ногі, і ціха наігрываў “Чобаты”.

– Гэта – усё? – ціха спытала яна. – Гэта развітанне? Я так разумею, што ўсё скончана? Ну, што ж, я бачу, як табе… Не буду трымаць. Я вельмі ўдзячная табе за…

Яна падыйшла да мальберта і ахнула.

– Гэта ж наш… асіннік! Дык ты не забыў?!

У яе былі мокрыя вочы. Яна не ведала, што ён, акрамя гэтага асінніка, нічога больш не ўмее, толькі на ім набіта рука.

– Які талент даў табе Бог, – прашаптала яна.

Адольф сам разгубіўся. Ён чакаў скандалу, а атрымался рамантыка. Акварэлькі, да якіх ён ніколі не ставіўся ўсур’ёз, цяпер так выручалі яго. Ён адклаў гармонік і падняўся на зацёклыя ногі.

– З чаго ты ўзяла, што… развітанне? – блытаючыся языком, сказаў ён.

– А хіба не?! Я падумала…

Яна, няшчасна-шчаслівая, аддана, з падзякаю на яго пазірала. Апранаючыся, каб ісці ў супермаркет па дабаўку, ён не строга, а хутчэй паблажліва не забыў нагадаць:

– Я – Адольф! Чалавек вольны. Калі што не па мне – зборы кароткія. Мальберт, гармонік і – маё шанаванне.

Ён спусціўся ўніз. Ад алкаголю, ад свабоды, ад таго, што ўбачыў, як яго кахаюць, на душы ў яго было ясна, лёгка, зразумела. Што ж, калі так – гэта мяняе справу. Можна пакуль… яшчэ і тут пажыць. Шанцуе – карыстайся, не будзь дурнем. Нічога! У Адолі шчаслівая доля! Я вам не проста так! Во як я ўмею! – урывацца ў чужыя лёсы, тасаваць іх, як карты, быць прычынай чужых слёз і чужой радасці… А да Ірыны Бацькаўны паспею вярнуцца… Яна даруе. Прыме, зразумее… Папрашу прабачэння… Раз сказала “пахудзеў”, значыць, па-ранейшаму кахае. Хай толькі скончацца гэтыя разборкі… А то сын, дачка, азер цягаецца… Пачакаць, пакуль утрасецца там…

На першым паверсе каля ліфта цярпліва чакала маленькая, з дзвюма цаглінамі пад пахаю, бабулька, худзенькая, як дзесяцігадовы падлетак.

Адольф выйшаў бокам, ветліва даючы ёй зайсці. Потым пастаяў, паглядзеў – пацягне ліфт ці не? Зачыніліся дзверы, ліфт паехаў.

– Усё не так цікава, як здавалася ў пачатку, – прамармытаў Адольф і засмяяўся. Ён ціха зацягнуў:

– Чобаты, чобаты вы мае!..

Цяпер, п’янаму, яму было мора па калена.

– Нарабілі клопату яны мне!..

***VI***

З самай раніцы на далёкім, за 300 кіламетраў адсюль, Хутары Талян пачаў збірацца да маці ў бальніцу.

Яна папрасіла прынесці зялёнай свежай цыбулі з салам і чорнага хлеба – больш нічога.

Ён падагрэў на пліце ўчарашні суп, сагнуў лыжку, як чарпак, пасёрбаў трохі з каструлькі. Паеў трохі, а ўзмакрэў, як паўлуга выкасіў.

Гадзіннік на сцяне спыніўся. Талян засвяціў мабільнік, у якім западалі кнопкі, паглядзеў, колькі часу, перавёў стрэлкі і падцягнуў гіры. Паспрабаваў пальцам суп, ці астыў, панёс, выліў Жуку ў міску. На агародзе вырваў некалькі корчыкаў цыбулі, каля калодзежа, нахілячы вядро, абмыў вадою, акуратна паабшчыкваў пазногцямі белыя ніткі-карэньчыкі. У каморы адрэзаў кусман сала, разам з хлебам закруціў усё ў газету. Адвязаў Жука, узяў палку і пасунуўся ў Старушкі.

Ішоў не дарогай, а напрасткі – як яны з Лёнікам у школу хадзілі. Некалі тут былі дзікія мясціны… Раптам ён спыніўся, як укапаны. З лаўжа наперадзе тырчэў вялікі кавалак пачарнелай слюды, і падобна было, што там, пад слюдой, чалавек! Сэрца затрэслася ў грудзях, запульсавала ў скронях. Талян падбег, паварушыў палкаю. Сатлелая ватоўка… Чайнік іржавы, пластыкавая бутэлька. Цэлафанавы каляровы пакет… Нейкія сурвэткі, размотаныя бінты… А здалёк, накрытае слюдою, так яўна прымала абрысы чалавека! Талян спачатку так і падумаў – Лёнік.

Паказаліся Старушкі, вялікая станцыя, з поштай, школай, бібліятэкай, трыма крамамі. Людзі, якія сустракаліся на вуліцы, ведалі маладога, задыханага, спацелага, з палкаю хлопца. Шкадавалі яго. Трэба ж, які лёс! Вось ужо сапраўды – дзе тонка, там і рвецца. Мала таго, што радыяцыі хапануў, з жонкаю нелады, брат прапаў – дык яшчэ з маці на кляшчоў умудрыліся наляцець! – а цяперашнія кляшчы не тыя, што раней, ад цяперашніх ногі адымаюцца, а то і здзяцінець можа чалавек.

– Куды йдзеш, Талян?

– У бальніцу да мамкі Нінкі! Перадачу нясу. Сала з цыбуляю захацела. Вы ж ведаеце, калі хворы чаго захоча – гвалт!

– Лёніка знайшлі?

– А хто яго шукаў?

– І што гэта з вашай сям’ёю такое здарылася? – спачувалі яму. – Столькі бяды ў адначас…

– Пазайздросцілі! – тлумачыў Талян. – Нехта добра вока паклаў!

– Дык ты адзін цяпер?

– Чаму адзін?! А дзядзя? Вы хіба не ведаеце майго дзядзю – Адольфа? Гэта ж такая душа... Не перадаць! Чалавек з вялікай літары! З бальніцы пайду на пошту, яму званіць. Ён заўсёды паможа. Не, мой дзядзька Адольф (Талян падымаў вялікі палец) во такі!

*2013 г.*

# Апавяданні

## Імгненні жыцця

Нядаўна перадавалі па радыё амаль неверагодную гісторыю: чалавек, хворы на рак, сам, без лекаў і аперацый змог цалкам вылечыцца!

Як? Даведаўшыся, што жыць яму засталося гады два ад сілы, гэты разумны і, несумненна, мужны чалавек не стаў мітусіцца, хныкаць, скандаліць і палохаць радню ўвесьчаснымі згадкамі свайго хуткага фіналу. Найперш ён памірыўся з былымі ворагамі, вярнуў пазыкі (якія, вядома, змог успомніць), і спакойна, стараючыся ні пра што не дбаць, пачаў развітвацца са светам і з людзьмі. Усё ім цяпер успрымалася інакш, і ён з горкай усмешкаю назіраў за людской мітуснёю. Беды і радасці абміналі яго. Ён дайшоў нават да таго, што ў думках пачаў дзякаваць лёсу за хваробу, якая надала яго жыццю раней невядомую цэльнасць. Нават боль, нібы насыціўшыся сваёй перамогаю, нібы пераканаўшыся, што чалавек зламаны і больш не падымецца, пакрысе пачаў адступаць. Яму, болю, было ўжо нецікава з пераможаным, яму трэба былі іншыя ахвяры, дужыя, радасныя, бестурботныя.

Між тым наш хворы рэгулярна, раз у месяц прыходзіў у дыспансер на абследаванне, кожны раз рыхтуючыся да таго, што гэты раз можа стаць апошнім. Аднак з кожным новым візітам дактары, агледзеўшы яго, зверыўшы аналізы, паціскалі плячыма, неяк здзіўлена між сабою пераглядваліся і нічога не казалі. І вось недзе праз год, калі чалавек ужо нагледзеў сабе месца на могілках, заказаў труну, вянкі, помнік і агароджу, распісаў між шматлікай раднёю свой небагаты нажытак, у час чарговага наведвання дыспансера ён пачуў ад доктара:

«А чаму вы, уласна кажучы, сюды ходзіце? У вас даўно усё рассмакталася і зарубцавалася. Тут хапае сапраўдных хворых!”

Так, ці вельмі блізка да таго, расказваў, выступаючы па радыё, гэты чалавек.

Неверагодна! Вылечыцца ад такой страшнай хваробы толькі тым, што змяніў свае адносіны да людзей, да жыцця! Чалавек проста ўсё лішняе перастаў браць да галавы. Ён нікога не чапаў, нікому не дакучаў і змог стварыць сабе такія ўмовы, пры якіх і яго не чапалі і не дакучалі яму.

«Дык гэта хворы, — падумалася мне, — а нам, здаровым? Ды мы

ж у сто, у тысячу разоў больш павінны радавацца кожнаму імгненню такога шчасця, як жыццё! Падумаеш, наступілі ў тралейбусе на нагу. Ці прадаўшчыца нахаміла ў гастраноме. І вось перажываем, камплексуем, шукаем, на кім спагнаць злосць...

А гэта ж якім цудоўным магло быць жыццё, калі б мы ўсвядомілі, што кожны з нас — той жа «хворы на рак», толькі без больш-менш дакладнага ведання даты свайго фіналу.

Якім цудоўным магло б быць кожнае імгненне жыцця, калі б мы ў кожным «блізкім сваім» бачылі найперш хворага, смяротнага няшчасніка, калі б мы не ўкарочвалі адзін аднаму і без таго кароткі век рознымі плёткамі, дробнай зайдрослівасцю, урэшце, элементарнай побытавай бесцырымоннасцю!..»

З такімі думкамі я паехаў на працу ў рэдакцыю. Вырашыў пачаць з сябе...

*

У рэдакцыйным калідоры сустрэў сябра, ён кінуўся мне на шыю.

— Нарэшце! Прывітанне! А я кожны дзень званіў і заходзіў, хоць і ведаў, што ты ў адпачынку.

— Чаго ж ты званіў і заходзіў?

— Так, думаю, можа, засумаваў па сябры, раней вярнуўся... Ну, расказвай. Дзе быў? У вёсцы, вядома?

— Не, у Крыму.

Сябар замоўк, тады адступіўся.

— Вось як, — сказаў ён іншым голасам і агледзеў мяне іншымі вачыма. — Ну, і што там, у тваім Крыму?

— Ведаеш, здорава! Накупаўся, пазагараў, у горы лазіў...

— Ага. Я і забыў, што спяшаюся, — ён заклапочана зірнуў на гадзіннік.

— Ды пачакай, я ж і не расказаў толкам нічога!

— Што тут расказваць... Падумаеш, Крым... Мы ўжо як-небудзь так, па-нашаму, па-вясковаму... Абыдземся як-небудзь без “Крымаў”.

Нядобрая здагадка працяла мяне. Але я ўспомніў, што ўсе мы — смяротнікі, «хворыя на рак», і ў нашай уладзе не атручваць адзін аднаму імгненні жыцця.

— А ведаеш, твая праўда, — пакорліва сказаў я. — Якія там горы, адна назва, проста пагоркі нейкія. Адзін раз усяго і злазіў, толькі калена абадраў, вось, — я падняў калашыну і паказаў драпіну. — Ды і мора — бруднае, пена, медузы, дэльфіны гэтыя... Адна назва, што мора.

— Аднак ты казаў, купаўся, — заўважыў сябар, які раптам забыў, што спяшаецца, і пачаў слухаць з цікавасцю.

— Адзін раз усяго. Ды і дажджы лілі амаль усе дні…

— Адзін раз?!

— Кажу ж. Акрамя дажджоў, яшчэ халера, дызентэрыя. Забаронена было купацца…

— Ты ж не захварэў, — мякка ўпікнуў сябар.

– Хварэў, далібог! Тры… не, трынаццаць дзён прамучыўся з дызентэрыяй. Магу паказаць даведку.

Сябар заўсміхаўся.

— Жылі хоць блізка ля мора? — з цёплынёй у голасе спытаў ён.

— Метраў… у сэнсе, кіламетраў… дзесяць. Калі б і захацеў пакупацца, не дужа находзішся.

— І ў якую суму табе гэта ўляцела?

-- Лепш на пытай. Прадаць сёе-тое давялося. Пару касцюмаў старых… Тэлевізар, радыёпрыёнік…

Сябар зусім развесяліўся і ляпнуў мяне па плячы. Потым угледзеўся ў мяне і сказаў з лёгкім дакорам:

— Аднак ты загарэў.

— Ды які гэта загар! Раз памыцца — і ўвесь злезе. На, паглядзі, — я наслініў палец і пацёр руку. — Бачыш, белаю скура робіцца?

— Сапраўды… Ану, дай я! — і сябар пачаў націраць маю руку з такой стараннасцю, нібы сабраўся здабываць з яе агонь.

Развітаўшыся з ім, да канца ўсцешаным, я зайшоў у свой кабінет і ўбачыў на стале пісьмо. Не, што ні кажыце, без сяброў сумна было б на свеце. Вось ляжаў я сабе бяздумна пад крымскім сонейкам, а мяне ў гэты час успаміналі, пісьмы пісалі… Прыемна!

“…Тройчы перачытваў тваё апошняе, — было ў пісьме, — і, як сябра сябру, вырашыў выказаць накіпелае, бо ніхто, акрамя мяне, табе больш гэтага не скажа. 1) Кідай ты гэтую літаратуру! 2) З першага сказа немагчыма чытаць… 3)… 5)… 7)… 14) …Асабліва немагчыма чытаць у канцы…»

Ну, і не чытаў бы! Дзіўныя людзі. Нашто ж так пакутваць? Мяне, напрыклад, калі не пайшоў першы абзац, ніякімі сіламі не прымусіш чытаць далей, хай гэта будзе напісана хоць самым залатым сябрам. Падраць к чорту, у сметніцу! Ці не?.. Усё ж чалавек думаў пра мяне… Адгукнуўся. Адказу чакае. Падзякі, можа, чакае. Усе мы смяротныя, усе «хворыя»…

«Дарагі (чым ён мне дарагі?)… Шчыра дзякую за (за што?)… за строгую, але справядлівую крытыку, якая (што якая?)…»

Тэлефонны званок. Кідаю недапісаны ліст і здымаю трубку.

— Слухаю.

— Ага, нарэшце! Вярнуўся з адпачынку?

Навучаны, хутка дакладваю:

— Так, вярнуўся, у вёсцы тырчэў, дажджы лілі, потым халера, мядузы, мора далёка...

— Па мне хоць у вёсцы, хоць на Канарах, — перабіў голас. — Я вось чаму званю: гэта праўда, што табе не спадабалася мая новая навела?

Я, да свайго сораму, не чытаў яшчэ і старую, таму асцярожна кашляю ў трубку і спрабую цягнуць час, каб выведаць хоць штосьці:

— Новая? Не можа быць. Хто табе сказаў?

— Твае сябры гэтак званыя, якімі ты там даражыш.

— Сябры? — мямлю я. — Хто?

— ...овіч перадаваў ...евічу...

— Што? Не чуваць нічога!

— А мне перадалі праз ...ова і ...ава! Ну?

Маўчу. Не казаць жа, што я першы раз пра тую навелу чую.

— Дык як ты хочаш, каб твае хвалілі, калі сам чужое крытыкуеш? Сам любіш, нябось, калі цябе хваляць?

Ды нічога падобнага: не падабаецца — не хваліце. Хачу апраўдвацца, але голас ў трубцы не дае:

— Дык вось: цяпер, пасля тваёй крытыкі маёй навелы, я вымушаны выказаць табе ўсю праўду-матку. Што я на самой справе пра цябе думаю. Тым больш, я ўсё ж лічу цябе сябрам і ўпэўнены, ты не вельмі пакрыўдзішся...

Пакорліва выслухоўваю «праўду-матку». Нарэшце, пачуўшы ў трубцы кароткія гудкі, вяртаюся да ліста. Але чамусьці не пішацца. Хачу думаць пра людзей, «хворых на рак», якім грэх труціць з-за драбязы жыццё, а ў галаве круціцца: «Цікава, хто аўтар выслоўя «не ўсіх дурных вайна пабіла»?.. Сурова, але як справядліва...»

Ціхі, ветлівы, настойлівы стук у дзверы.

— Калі ласка! — крычу я.

Неяк бокам, сарамліва ўсміхаючыся, у кабінет заходзіць аўтар, — заходзіць і нізка схіляе галаву, нібы хоча паказаць: «Я ўвесь ваш, гатовы хоць на плаху».

— Добры дзень, дарагі вы мой, — з парога пачынае аўтар. — Нарэшце! А я да вас хадзіў-хадзіў, званіў-званіў... Увесь ваш адпачынак.

— Нашто ж вы хадзілі, калі ведалі, што я ў адпачынку?

— Так... А раптам, думаю, зацікавіўся маім артыкулам і вырашыў вярнуцца з адпачынку. Хе-хе... Жартую!

Я запрашаю аўтара сесці.

— Ну, расказвайце, — кажа ён. — Дзе адпачывалі, што, як — усё-усё, падрабязна расказвайце.

— Добра адпачываў.

Мы маўчым.

— Што гэта вы нейкі пануры сёння? — трывожыцца аўтар. — Ці не захварэлі?

— У мяне проста выгляд такі, — у тысячны раз тлумачу я. — У мяне кепскі зрок, таму я, углядаючыся, вымушаны хмурыцца. Адсюль ілюзія панурасці.

— Беражыце сябе, вы яшчэ спатрэбіцеся нашай літаратуры. Акуляры трэба насіць.

Я махаю рукою:

— Чэхаў вунь насіў пенснэ, а таксама маршчыніў лоб, і яго абсалютна несправядліва лічылі занудам, панурым і ганарліўцам.

— Вось, дарэчы! — ажыўляецца аўтар і нахіляецца бліжэй, нібы сабраўся падзяліцца са мною якімсьці непрыстойным сакрэтам. — Добра, што згадалі Чэхава. Я чытаў ваша апошняе, гэта, я вам скажу, сіла. Уражвае. Ёсць мясціны проста чэхаўскага ўзроўню. Працуйце, і праз два гады...

Я раблю хітры ход — хутка дастаю з шуфляды і кладу на стол папку з рукапісам аўтара. Ён замаўкае на паўслове, забываецца на ўсё, акрамя гэтай папкі, і я так і не даведваюся, што ж чакае мяне праз два гады.

— Мо прачыталі? — пытае аўтар і аблізвае губы.

Прачыталі. Артыкул слабенькі. Яго трэба вяртаць. І ўсё ж паводле тэорыі “ворых на рак” мне шкада аўтара.

— Артыкул... добры, — пачынаю я. — Ды што там, выдатны артыкул. Думкі харошыя, тэзісы розныя... Асабліва пра феадальны ўплыў на капіталістычны націск... Але...

Пры гэтым «але» аўтар, які ловіць кожнае слова, уздрыгвае і дакорліва глядзіць на мяне. Потым зноў нізка апускае галаву, быццам падстаўляючы яе пад хуткі бязлітасны абух.

— На вялікі жаль, артыкул для нашага часопіса наўрад ці можа падысці. У вас атрымаўся навуковы артыкул, нават задужа навуковы... Гэта важная праца для навукі, — гавару я абы-што, каб адцягнуць трагічную развязку. — Навука ўзбагаціцца, словам... А ў нас часопіс літаратурна-мастацкі, папулярны, не спецыфічны...

— Вяртаеце?

— Вяртаем, — не ў сілах больш мучыць чалавека, разам апускаю абух.

І — вось дзіва! Мой абух аказваецца чароўным. Ён не аглушае

аўтара, а толькі ператварае яго з мілага, ветлівага чалавека ў грознага бунтара. Аўтар парывіста ўстае, з-пад майго носа забірае папку.

— Галоўны ў сябе? — пытае ён ледзяным голасам.

— У сябе.

— Вось няхай галоўны і вырашае! А то будуць тут розныя, маладыя ды раннія... Не, ты спачатку дажыві да маіх гадоў, папішы з маё! А то ўжо ў Чэхавы меціць... Многа вас, такіх «Чэхавых», па дзесяць у кожнай рэдакцыі! І кожны “геній”...

Сабраўшыся дахаты, праходжу калідорам ля кабінета галоўнага рэдактара і чую з прачыненых дзвярэй голас аўтара, зноў ператворанага ў сябе ранейшага — уважнага, ільсцівага:

— Вось вы ўмееце выслухаць, абнадзеіць... А то заяўляе мне: «Я ўжо — Чэхаў, таму вяртаю рукапіс не чытаючы!» У наш час таксама ўсялякае было, але межы ведалі, старэйшых паважалі...

*

Буду ехаць дамоў — знарок уплішчуся ў самы перапоўнены тралейбус і патапчуся па чужых нагах. Хоць душу адвяду.

*1994г.*

## Госць

Звычайна пад канец мая, калі ў Мінску ставала гарачыня, і душа і цела звыкла пачыналі бунтаваць («а час ляціць, а людзі на курортах, дачах, на прыродзе, а я... і г. д.»), адзін малады чалавек, па прозвішчы, скажам, Азіевіч, кідаў усё і хоць на пару дзянькоў вырываўся на Палессе, да былога сябра-аднакурсніка, які працаваў там настаўнікам у вёсцы. Паблізу вёскі было вялікае рыбнае возера.

У першы свой прыезд Азіевіч, як і сябар цяпер, быў звычайным настаўнікам, у другі — журналістам, а ў гэты, трэці — «камерсантам» (ён памагаў скупляць і перапрадаваць розныя тавары, зробленыя іншымі людзьмі). А сябар кожны раз заставаўся адным і тым жа, са сваімі маленькімі клопатамі. І гэта прыемна было ведаць, бачыць — што ты расцеш, а некаму Бог не даў, так і гібее.

Азіевічу падабалася гэтая вёсачка, уся ў садах, ваколіцы, падабалася наязджаць вось так, знянацку, падабалася, што сябар з жонкаю бегаюць вакол яго, не ведаючы дзе пасадзіць і чым дагадзіць, падабалася, калі асталіся адны, жартам заляцацца да непрыгожай сябравай жонкі Лены, якая, хоць і вучылася некалі разам з Азіевічам у інстытуце ў адной групе, цяпер чамусьці пачала зваць яго на «вы» і не скідала яго рукі са свайго пляча, баючыся пакрыўдзіць.

Як толькі Азіевіч выйшаў з «Ікаруса» і ўбачыў знаёмыя хаткі у квецені сіняга і белага бэзу, як толькі ўдыхнуў у сябе пах веснавой нагрэтай зямлі, маладой травы, пачуў, як шчабеча нейкая птушка, як конь паўз плот каля агарода, пазвоньваючы цуглямі, скубе траву – так адразу стала лёгка і здорава! І яму, чалавеку гарадскому, захацелася хутчэй забыцца, скінуць з ног чаравікі, сцягнуць змакрэлыя ў душным аўтобусе шкарпэткі і прайсці басанож, пасядзець, паляжаць на траве, хоць на міг адчуць сябе звычайным вясковым дзядзькам, як вунь той, што сядзіць пад плотам і курыць...

Была якраз субота, выхадны. Настаўнік з жонкаю, як і заўсёды, узрадаваліся нечаканаму госцю, кінуліся збіраць на стол, і Азіевіч, седзячы на канапе ў прахалоднай верандзе, чуў, як яны там у хаце радзяцца, што найперш падаваць. Настаўнік гучным шэптам выгаворваў жонцы, каб зараз жа прыбрала са стала «гэтыя яйкі!», а паставіла «першае», потым паляндвічку, хрэн і не забылася на бярозавы квас — запіваць гарэлку.

Азіевіч адпачываў і лена думаў, што і на гэты раз у яго знаёмцаў перамен асаблівых няма, як жылі, так і жывуць. Адно хіба — настаўнік чамусьці адгадаваў бародку і стаў падобны на маладога рэвалюцыянера-марксіста, а яго непрыгожая Лена хадзіла цяжарная і ўжо неяк няёмка было жартаўліва да яе заляцацца. Урэшце яго запрасілі ў хату, прычым настаўнік з жонкаю селі толькі тады, калі Азіевіч сеў. Гаворкі дужа не вялі, падзакусілі добра — госць асабліва пахваліў боршч з маладога шчаўя; потым зморанага з дарогі, разамлелага ад трох добрых чарак самагонкі Азіевіча настаўнік правёў у кутні чысты пакойчык, прычыніў акно — каб камароў не налядела, і госць улёгся ў мяккі ложак на свежыя, скрыпучыя ад крухмалу прасціны.

Спаў ён моцна, без сноў, і доўга, аж да вечара. Але прачнуўся ргптоўна — здалося, на яго нехта глядіііць. Так і ёсць: малюсенькая беленькая дзяўчынка, як лялька, дачка гаспадароў, стаіць у дзвярах, прыціснулася да вушака і пазірае сінімі вочкамі. Азіевіч хацеў паклікаць яе, пагладзіць па галаве і сказаць штосьці ласкавае, але не змог успомніць, як яе завуць. Ён працягнуў руку, дзяўчынка спалохана крутнулася і ўцякла. «Пажыву тут з тыдзень, — падумаў Азіевіч, — адпачну па-людску... Хай ляснецца той горад».

Паўз дзверы, якія дзяўчынка пакінула расчыненымі, ціха прадыбаў настаўнік. Ён быў ужо ў рыбацкім адзенні. Азіевічу згадалася возера, камарыны звон, пранізлівае цёхканне салаўёў, ад якіх вушы закладвала, гразь, пот, ды і ганялі там, возера было

рыбхознае, наат курыць даводзілася ў рукаў, не кажучы, каб раскласці вогнішча ды зварыць юшкі... «Паспею яшчэ і на возера!»

Ён заявіў настаўніку, што нешта не хочацца сёння нікуды ісці.

— А не хочацца, дык і не пойдзем, — адразу згадзіўся настаўнік і пайшоў пераапранацца.

Пад вечар зноў селі за сабраны па-новаму стол у меншай хаце. Настаўнік наліў сабе і госцю гарэлкі, жонцы і беленькай дачцэ-лялцы — кампоту ў чаркі. Азіевіч агледзеў стол і пацёр рукі.

— За што я вас люблю, дык гэта за закусь! — сказаў ён, кладучы на хлеб дольку ружовай паляндвіцы і прынюхваючыся. – Я такую толькі аднойчы еў, у Мінску, у рэстаране «Сосны». А зрэшты, і гарэлка неблагая ў вас!

Лена заірдзэелася. Азіевіч падняў руку з чаркаю і ўжо раскрыў губы, рыхтуючыся ўліць у рот пахвалены напой, як раптам настаўнік зрабіў усім знак замерці:

— Ціха! — і прыслухаўся. Азіевіч, якому было бліжэй, расхінуў фіранкі. Усе паглядзелі ў акно, у прыцемкі. Здалёк аднекуль данёсся грукат цягніка.

— «Кішынёў — Адэса», — прамовіў настаўнік і выпіў.

— «Адэса»! — перадражніла жонка, крутнуўшы каля скроні пальцам.

— Слухай, трэці раз прыязджаю і трэці раз зразумець не магу — нашто табе гэта? — спытаў Азіевіч, хрумстаючы пярынай зялёнай цыбулькі. — Ну, нашто ты цягнікі гэтыя ўгадваеш?

— Ён і сам не ведае.

— Так, — адказаў настаўнік. — Падумаеш, людзі жывуць, ездзяць сабе некуды, а ты сядзіш, як пень. Трыццаць гадоў, а на моры ніколі не быў, толькі па тэлевізары бачыў.

— Хто ж табе вінаваты? — уставіла Лена са звыклым дакорам. — З'ездзі на мора.

— Дай грошы, з'езджу, — у тон ёй, гэтак жа звыкла абазваўся настаўнік.

— Зарабі, тады дам...

Пілі, вядома, за госця, за тое, што праведвае, не забываецца. Як толькі Азіевіч адкрываў рот, настаўнік з жонкаю адразу змаўкалі. Госць балбатаў што хацеў і колькі хацеў. Калі ж яго язык стамляўся, ці рот быў заняты паляндвіцаю, тады і настаўнік спрабаваў выгаварыцца. Казаў нецікавыя рэчы, у асноўным скардзіўся, як надакучыла ўсё, як хацелася б з'ехаць куды вочы глядзяць — да самага мора, але нельга, дзеці, сям'я...

— Тут у Жыткавічы няма за што выбрацца, а ён — ехаць! — устаўляла тады Лена. — Не з тваімі грашыма.

Настаўнік яе ігнараваў, а Азіевічу далей расказваў, што вось-вось пойдзе на пенсію нейкі Пятровіч, і тады нічога не застанецца, як нейкаму Васільевічу — «дырэктарам», а яму, настаўніку, — «завучам».

— Ну і што твой завуч? — казала жонка. — Работы больш, а грошы такія ж самыя.

— Такія ды не такія...

Азіевічу ўсе гэтыя праблемы былі далёкія і чужыя. Ён, пражаваўшы, аслабаніўшы рот, умешваўся, перабіваў, смела даваў размове той кірунак, які хацеў. Настаўнік з жонкаю пакорліва пачыналі слухаць.

— ...Ну, тады я — наце! — кідаю на стол «баксы»! Не помню ўжо, колькі. Ну, яны там забегалі... Ха! Слова такога не чулі, а сабраліся раскручваць!

— А што за такое слова? — спытала Лена. — І я не ведаю.

— Долары, цемната! — засмяяўся настаўнік.

— Долары, маркі, фунту... Ну, слухайце: карацей, я бац, раскручваю іх на сто сорак сем «баксаў», закаціліся ў «Сосны», прыязджаем, значыць, у «Сосны»...

Сядзелі доўга. Лена ўжо адвяла дачку спаць і цяпер сама клявала носам. Мужчыны пілі многа, але ад добрай закускі п'янелі мала. Пакурыць выходзілі на двор. Над галовамі роем, бы здурнелыя, не баючыся цыгарэтнага дыму, таўкліся-звінелі камары. Зусім блізка, у бэзавым кусце, спяваў салавей.

Вярталіся ў хату.

— ...Там, у «Соснах». як заходзіш, вось тут, дзе ў вас печ, там бар, тут, дзе ў вас стол — там такія стойкі...

Настаўнік раптам падняў палец, зноў патрабуючы цішыні.

— «Кеў — Рыга», — прамармытаў ён і сабраўся далей слухаць Азіевіча.

— «Рыга», «Рыга»! — перадражніла жонка. — Людзі жывуць, у рэстараны ходзяць... А ён цягнікі лічыць! Паслухай лепш чалавека!

— ...Значыць, такія стойкі. Дастаю я «баксы», ну, спачатку, вядома, даўгі раздаў...

Усё ж гарэлка і час бралі сваё. Калі выйшлі пакурыць чарговы раз, Азіевіч ледзь не зваліўся з ганка, настаўнік паспеў падтрымаць. Вярнуліся — Лены ўжо не было, пайшла спаць.

— А-а!.. — пазяхаў і гнаў даланёю ў рот паветра настаўнік.

Але Азіевіч выспаўся днём і яшчэ хацеў гаварыць. Настаўнік, відаць, разважыўшы, што адцягнуць госця ад стала і тым скончыць

яго росказні можна толькі адным спосабам, менавіта — напаіць так, каб у яго язык не варочаўся, — паказаў на пустыя чарачкі:

— Яшчэ па «сотцы»? Тады схаджу ў камору, — і, прыхапіўшы пусы літровы слоік, выйшаў з хаты.

Азіевіч, астаўшыся адзін, паспрабаваў успомніць канец гісторыі, якую расказваў цэлы вечар — пра «Сосны» і «баксы», але не змог. У галаве звінела, камары былі і тут, у хаце. Пачуўся гудок далёкага цягніка. «Кіеў — Рыга», — успомніў Азіевіч і падумаў пра настаўніка: — Дурань». Недзе за сцяною сонна закашлялася дзяўчынка. Азіевічу раптам дзіўна стала, што вось ён тут, чортведама дзе, сярэдначы, у чужой хаце, сядзіць, корміць камароў — замест таго, каб спакойна спаць сабе ў Мінску ці гуляць у тым жа рэстаране «Сосны». Дзіўна было пазіраць на сваю руку, на чаравікі, на аб'едкі на стале. Яшчэ больш дзіўна думаць, што чалавек, які пайшоў па гарэлку, прыжыўся тут, вучыць дзяцей у школе, а тыя, відаць, глядзяць на яго так, як некалі ён, маленькі Азіевіч, сам глядзеў на настаўнікаў, і думаў, што яны ніколі не ядуць, не п’юць і не лаюцца матамі. Дзіўна! І вось ён, Азіевіч, успомніў пра гэтага чалавека, прыехаў — і чалавек не спіць паўночы, пайшоў вось яму, Азіевічу, па гарэлку... А захацеў бы Азіевіч — і настаўнік спаў бы цяпер. Як Лена спіць. Ці яшчэ не спіць? Яна пахарашэла цяжарная... Ці яму здалося?

Зусім не разумеючы, што і навошта ён робіць, Азіевіч падняўся і пайшоў у пакоі. Вось баковачка, дзе ён спаў. Вось яшчэ дзверы, прачыненыя. Ён зазірнуў і, дзякуючы добраму зроку, разгледзеў у цемры нешта белае каля сцяны. Ён, выцягнуўшы ўперад руку, ступіў крок, яшчэ, і натыкнуўся на біла ложка. Намацаў жаночую галаву, плячо, пагладзіў па ім. Потым павёў руку далей, пад коўдру. Жаночае цела пад яго рукою здрыганулася.

— Што... Што? — спрасонку замармытала Лена і знянацку ўскінулася: — Што?!

У той жа час загарэлася святло, і дзяўчынка, якая спала з маці, спалоханая святлом і матчыным воклічам, сама закрычала, затым, убачыўшы над сабою чужога дзядзьку, аж зайшлася ў плачы і пашылася пад коўдру. Дужыя рукі схапілі Азіевіча за плечы, павярнулі і паперлі перад сабой, штурхаючы, на кухню — так, што Азіевічу давялося ісці подбегам. На кухні рукі адпусцілі яго. Азіевіч сеў на свой табурэт і, невядома чаму, найперш глянуў на стол, ці прынесена гарэлка, а толькі потым — на настаўніка.

Той стаяў пасярод хаты са сціснутымі кулакамі, ніжняя губа разам з бародкаю трэслíся, зусім цвярозыя вочы глядзелі на Азіевіча з нейкім страхам, нават жахам — быццам Азіевіч вось зараз забіў

кагосьці, прызнаўся настаўніку, і цяпер настаўнік баіцца, што і яго могуць забіць.

— Божа мой! — вымучыў з сябе ўрэшце настаўнік, прыціскаючы кулакі да грудзей. — Ты... свіння! Проста свіння!

Азіевіч, збянтэжаны, збіты з панталыку, маўчаў.

— Якая ж ты, аказваецца, свіння!

— Ды хопіць табе... — нясмела папрасіў Азіевіч.

— Хопіць?! Памаўчаць?! Вось зараз зноў сядаць з табою за адзін стол і піць гарэлку?! Ты... мала таго, што свіння — ты яшчэ і нахабная свіння! Мы да яго, як да радні, усёй душою, усім сэрцам... вось гэтым вось дурным! (Настаўнік пастукаў сябе кулаком у грудзі.) Бегаем, не ведаем, дзе пасадзіць... Слухаем! Слухаем гэтую гадкую балбатню, беліберду пра рэстараны і «баксы»! Каму гэта трэба?! Нашто ты пры Лене гэта кажаш?! Якога чорта мне слухаць пра твае «баксы», калі я ў руках іх не трымаў, не бачыў ніколі?!

— Лена ў дэкрэце, я капеечка да капеечкі... Ты ведаеш, што я ўжо год не тое што сабе ці жонцы — малой не магу купіць ніводнай абноўкі? Усё на ежу, на муку, цукар, камбікорм... І наце — заяўляецца ён! На ўсё гатовае! Ты ведаеш, якую ты гарэлку піў? Тую, што я хаваў людзям, каб соткі абагналі, дроў прывезлі! Паляндвіцу хаваў, грыбы — малой шкадавалі, а для яго выставілі — пі, еж, толькі будзь чалавекам! Не, вось ужо праўда: пусцілі за стол, а ён і ногі на стол... Хвалішся сваімі рэстаранамі, «баксамі», а прывёз хоць раз, як чалавек, цукерку малой? Лене апельсіна якога? У госці ж са сваёй пляшкай ідуць, а ты з чым прыязджаеш трэці раз? З пустымі рукамі! Але хай — пі, еж, рыбалку хочаш — на табе рыбалку... Не — дай яшчэ жонку! Свіння, проста свіння і больш нічога!

Азіевіч мала што разумеў. Слухаючы настаўніка, ён чамусьці не цверазеў, а яшчэ больш п'янеў.

— Свіння! — усё паўтараў настаўнік, ходзячы ўзад-уперад.

— А што такое? — вырашыў урэшце павысіць голас, абурыцца і Азіевіч. — Заладзіў... Ад такога ж чую!

— Вось што, вымятайся адсюль зараз жа! — настаўнік схапіў яго за каршэнь, працягнуў праз хату, веранду і саштурхнуў з ганка ў цемру.

Азіевіч па інерцыі пабег уперад, выцяўся рукою аб плоцік агарода і ўпаў. Прыпадняўся на карачкі, агледзеў руку на святле з акна, убачыў кроў. Вырваў пук роснай травы, прыклаў да раны. Пасядзеў трохі на карачках тут, пад плоцікам, нават прыдрамнуў — і заснуў бы, каб не камары. Пачуўшы жывога чалавека і кроў, як звар'яцелі, не давалі спаць.

Азіевіч трохі працверазеў ад халоднай зямлі і начнога туману. Падняўся, пайшоў, хістаючыся, у хату. У хаце яшчэ гарэла святло. Настаўнік сядзеў, як і сядзеў, на сваёй табурэтцы, глядзеў перад сабою. Чуўся голас Лены; мабыць, усё не магла супакоіць малую.

Настаўнік падняў галаву, убачыў скрываўленую руку госця — Азіевіч так і зайшоў у хату, прыціскаючы да раны траву.

— Пасядзі, зараз ёд прынясу, – азваўся неяк вінавата. Выйшаў, вярнуўся з бінтам, ёдам, перавязаў руку. — А цяпер кладзіся спаць, — і правёў Азіевіча, памог яму распрануцца і выйшаў.

Назаўтра, у нядзелю, прачнуўшыся, Азіевіч сеў на ложку і паспрабаваў успомніць, што ж учора адбылося. Не ўспомніў. Ведаў толькі, што ўчварыў ён нешта гадкае, а што — хоць забі, не мог узяць у толк. З Ленаю штосьці? Магло быць... З настаўнікам пабіўся? Было нешта... Рука забінтаваная... Ён развязаў бінт, глянуў — зусім маленькая драпіна, засохла ўжо.

Так і не ўспомніўшы, Азіевіч, аднак, цвёрда ведаў — больш яму тут заставацца нельга. Трэба ехаць. Зараз жа. А як развітацца? Хоць праз акно вылазь!..

Толькі дарэмна ён баяўся. Калі, як шкадлівы кот, ён адважыўся высунуцца са сваёй баковачкі і прытупаў у меншую хату, яго ўжо зноў чакаў сабраны свежымі закускамі стол і слоік самагону. Лена сказала яму «добрай раніцы» і падала чысты ручнік. Азіевіч выйшаў на двор, халоднай свежай вадой з рукамыйніка абліў твар, вярнуўся ў хату. Неўзабаве, кульнуўшы пару чарак самагону, ён зусім асвойтаўся, асмялеў і пачаў расказваць, як сёння акурат пад вечар прыедзе ў Мінск, памяняе «баксы», зловіць «таксоўку» і «закаціцца ў «Сосны»...

— Пабылі б яшчэ, — папрасіла Лена.

– І на рыбалку не схадзілі, – падтрымаў яе настаўнік, чамусьці адводзячы вочы.

– Не, даруйце, не магу! – Азіевіч ужо ўяўляў сябе ў “Ікарусе”, як сядзе каля акна, ды яшчэ каб студэнтка знайшлася ў спадарожныя. Дурань, плэер не ўзяў!

Паснедаўшы, падзякаваў, пацалаваў Лене ручку. Настаўнік сабраўся яго праводзіць. Толькі малую ніяк не змаглі прымусіць падысці развітацца з дзядзькам – баранілася, ціснулася да маці.

Пайшлі. Каля веснічак настаўнік спыніўся і ляпнуў сябе далоняй па ілбе.

– Пачакай! – пабег, вярнуўся, пачаў піхаць Азіевічу нешта закрчанае ў газету. – Вазьмі, тут пару ляшчоў сухіх, карп, у Мінску, з півам...

Азіевіч узяў.

– Слухай, – спытаў ён, – што я ўчора рабіў? Забі мяне – нічога не помню.

– Ды забудзь! – горача загаварыў настаўнік. – Нічога ты не рабіў! І прашу – прыязджай, калі зможаш, калі захочаш! Добра? Ты ж ведаеш, як Лена, як я да цябе... Малая таксама...

Тут настаўнік змоўк, прыслухоўваючыся.

– “Баранавічы” – “Жытомір”, – сказаў ён і зірнуў на гадзіннік.

Азіевіч паабяцаў абавязкова прыязджаць яшчэ, папрасіў далей яго не праводзіць (настаўнік паслухаўся), і з пакункам пад пахаю пайшоў сабе да блізкага аўтобуснага прыпынку.

*1995 г.*

**Без назвы**

Мы сядзелі ў дворыку на лаўцы пад дзвюмя старымі ліпамі, з якіх, кружачыся, адзін за адным зляталі пажоўклыя лісткі. Імі быў услапы амаль увесь невялікі дворык. Позняя восень, але дзень стаяў пагодны, сонечны, ціхі. У такія дні, ды яшчэ калі выхадны, як сёння, асабліва востра адчуваеш адзіноту — таму я і прыцёгся з другога канца горада да сябра. Мы выпілі, закусілі, а цяпер вось сядзім у дворыку – выйшлі пагаманіць, пакурыць, пагрэцца на сціплым сонцы, якое ў любы момант можа зацягнуцца хмарамі... Восень!..

— Скажы, калі ласка, — спытаў я, – як табе ўдалося знайсці такую жонку? Не крыўдуй толькі – але якая вы пара? Яна, нарадзіўшы двух дзяцей, выглядае як старшакласніца. Такая красуня, статная, усмешлівая, ласкавая... Яна, урэшце, вышэй за цябе ростам. Яе можна за дачку тваю прыняць, бо ты выглядаеш старэй. Чым ты мог яе заваяваць?

Сябар ані не пакрыўдзіўся. Ён асцярожна здзьмухнуў попел з цыгарэты і сказаў:

— Усё вельмі проста. Да банальнасці. Я не кідаўся з-за яе ў агонь, не выцягваў з вады, не абараняў ад хуліганаў. Сышліся мы дзякуючы адной гісторыі, але настолькі простай, што ты будзеш расчараваны.

— Расказвай.

– На самой справе не я за яе, а яна за мяне старэйшая. Я вучыўся на першым курсе універсітэта, яна — на апошнім. Жылі ў інтэрнаце. Пазнаёміліся на нейкай вечарынцы, я быў крыху п’янаваты ну, і набраўся смеласці, запрасіў танцаваць самую прыгожую, самую рослую дзяўчыну. Зрэшты, і я тады быў не самы

горшы... Але зусім ні на што не спадзяваўся. Усё ж запрашаю, мы танцуем, потым выпіваем, і, карацей, раніцай прачынаемся ў маім пакоі ў адным ложку. Яна, напяваючы, ідзе ў душ. Затым спакойна развітваецца і знікае. А мне, адчуваю, фініш. Ніколі ў жыцці так цудоўна, як з ёю, не было і, ужо цвёрда ведаю, не будзе. Закаханы? Не тое слова! Ды і не раскажаш такога. Адно хіба — зразумеў тады, як і ад чаго людзі захворваюць, і труцяцца, і рэжуць вены... Дні праз тры заходжу да яе — яна, на шчасце, адна ў пакоі. Сядзіць за сталом перад касметычкаю, паклаўшы нага на нагу. Я заходжу і з парога заяўляю: «Давай пажэнімся. Я без цябе не магу».

«Дарагі мой, — спакойна адказвае яна, седзячы бокам да мяне. — Давай зробім так. Мы будзем сябраваць, будзем, калі я таго захачу, нават спаць разам. Але пра ўсё іншае, пра жаніцьбы і таму падобнае, што можа нас звязаць, – забудзь! Не хачу нічога ні тлумачыць, ні апраўдвацца, скажу шчыра і коратка: я цябе не кахаю. Але я здаровая, мне хоць бы фізіялагічна трэба жыць з мужчынам, і ты якраз для гэтага падыходзіш. Ты чысты, акуратны, педантычны; акрамя ўсяго я ведаю, бачыла, як табе спадабалася са мною, і мне ад гэтага прыемна, вядома».

Людзі панавыдумлялі розных афарызмаў на ўсе выпадкі жыцця; напрыклад, “чаго хоча жанчына, таго хоча Бог”. І мне нічога не заставалася, як суцешыцца гэтым і рабіць так, як яна хоча. Пачынаецца нашае «сяброўства». Паводле яе інструкцыі. Я чакаю яе з заняткаў, мы ходзім у кіно, у тэатры і на розныя вечарыны-дыскатэкі. Зрэдку спім разам. І нічога не мяняецца! Яна якой была, такой і засталася. А я... Пасля кожнай ночы з ёю — бы не на гэтым свеце, сэрца калоціцца, пот прабівае і проста ўздрыгваеш ад салодкага жаху і захаплення, калі раптам успыхне перад вачыма якаясь інтымная дэталь... І паралельна — пастаянны страх, што час бяжыць, хутка размеркаванне і паедзе мая «баскетбалістка» невядома куды, і забудзе мяне праз тыдзень, бо не можа такая дзяўчына адна быць, проста не дадуць!

У такіх выпадках звычайна як? — звычайна жанчына пасля інтымнай блізасці імкнецца выйсці замуж, а мужчына адкручваецца, — а ў нас усё наадварот. Самае крыўднае, горкае, па вачах яе бачу — не хлусіць, сапраўды не кахае, проста падгульвае са мною, як хлопец з дзяўчынаю падгульвае, каб пасля кінуць.

Неяк прыходзіць маёй дзяўчыне сумная вестка: памерла яе бабуля. Трэба ехаць на пахаванне ў другі горад. Яна паехала. А я, застаўшыся адзін, не знаходжу месца. Туляюся па пакоі з кутка ў куток. Вучоба даўно закінута, усё запушчана. На заняткі не йду, а

надумваюся памыць бялізну. Звычайна я складваў яе ў цэлафанавы пакет: розныя шкарпэткі, насоўкі, майкі... Трусы, прабач. І вось я замочваю ўсё гэта, белае з белым, каляровае з каляровым. Замочваю, вымываю, кіпячу белае ў адбельніку, потым выпаласкваю ў халоднай вадзе... І, калі, насуха выкруціўшы ўсё, пачынаю развешваць на вяроўцы ў душы перад гарачай трубою, заўважаю, што адны трусікі – не мае. Яны больш тонкія і з рознымі карункамі. Я стаяў і тупа глядзеў на іх. Канечне, нічога асаблівага ў тым не было. Падумаеш! Сорамна, дык проста здымі ды выкінь. Але, паўтаруся, я быў закаханы да вар'яцтва. Самая нязначная драбяза, любая рэч, якая належала маёй «баскетбалістцы», здавалася мне ледзь не рэліквіяй, ледзь не святыняй, а тым больш такая далікатная штука, як тая, што машынальна вымыў.

Хлопец, які мые жаночыя трусікі – што можа быць больш смешным, больш вартым пагарды?! Да таго ж, яна можа падумаць, што я зрабіў гэта знарок, каб падлізацца, паказаць, якім я магу быць “добрым мужам”...

Карацей, я чакаю. Нічога не думаючы. Прыязджае маё каханне. Пахудзелая, стомленая з дарогі, сумнаватая, але яшчэ больш пахарашэлая.

«Ну што, як ты тут?» — пытае, а ў самой у вачах поўная абыякавасць. Вось каб сказаў зараз: “Давай спынім усё гэта”, — яна б павярнулася і спакойна пайшла назаўсёды.

«Я памыў твае трусікі... Але клянуся — выпадкова! Лямпачка слабая, не ўбачыў... Я, галоўнае, не хачу, каб ты падумала, што я знарок”, — мямлю я і баюся падняць галаву. А калі падняў — анямеў. Перада мною стаяла зусім іншая дзяўчына. Ніхто ніколі не глядзеў на мяне з такой пяшчотаю! А як свяціліся цяпер яе вочы, тыя самыя, што ўсяго хвіліну назад былі такія халодныя, чужыя, абыякавыя!

«Дурненькі, — сказала яна, абдымаючы і цалуючы мяне. І голас, і абдымкі, і пацалунак таксама былі зусім іншыя, чым раней. — Каб я не ведала цябе, дык сапраўды падумала б, што наўмысна...»

Сябар раптам абарваў сябе:

— Вось такія справы, – і зірнуў на гадзіннік. – Прабач, дзякую, што прыехаў, але – ісці трэба. Ды і пахаладала як... Разбягаемся?

Я і сам бачыў, што яму не церпіцца хутчэй дадому, ва ўтульную цёплую кватэру, да красуні жонкі.

Мы развіталіся. А пахаладала між тым папраўдзе. Сонца ўжо не было, аднекуль узяўся вецер, пагнаў па дворыку лісце... Я падняў каўнер курткі. Холадна аднаму ўвосень!..

*1997 г.*

## У Нью-Йорку пылу не бывае

1.

Я зайшоў у бар выпіць піва – і пачуў:

– Якія людзі! Даўно збіраўся патэлефанаваць, сустрэцца, а тут – уласнай персонаю!..

Азіраюся – даўні знаёмы. Вучыліся некалі разам. Я ледзь пазнаў яго. Увогуле, з нядаўняга часу, калі я ўладкаваўся на радыё, сябры і знаёмыя раптам успомнілі пра маё існаванне. Нават тыя, каму я раней тысячу гадоў не трэба быў. Відаць, праўда, што сапраўднае сяброўства – як золата, з часам не ржавее.

Мы ўзялі па кухлі піва.

– Дык ты цяпер на радыё? Малайчына! А заўсёды здаваўся мне такім ахламонам, – пахваліў мяне сябар. – А цяпер вунь як угару пайшоў! На ўсю рэспубліку грыміш!

Я сціпла апусціў вочы вочы, згадаўшы свае абскубленыя інтэрв’ю і куртатыя рэпартажыкі, якія вечна не хацелі пускаць у эфір з-за неактуальнасці тэмы.

– Хоць і мне грэх скардзіцца! – пахваліўся знаёмы. – Працую чыноўнікам ва ўстанове. Паперы перакладваю з папкі ў папку. Але вось якая справа – скарачаць збіраюцца. Чаму я так і ўзрадваўся, цябе пабачыўшы. Хачу, разумееш, на радыё выступіць. Можа, тады не скароцяць? Падумаюць – варушыцца чалавек, кіпіць на рабоце, нават на радыё пралез...

– Няма праблем, – я зазірнуў у пусты кухаль. Знаёмы кінуўся да стойкі, прынёс пару поўных. – Давай свае каардынаты, – сказаў я. – Заўтра зранку буду ў цябе з дыктафонам, зробім інтэрв'ю.

– Няўжо так проста? – усцешыўся ён. – Вось дзякую, выручыў! А раптам паможа? Бо сам ведаеш, неахвота скарачацца. Прывык неяк паперы перакладаць – супакойвае псіхалагічна... Ды не спяшайся, зараз яшчэ піўка пап'ем!

2.

Кожны ведае, што паабяцаць – самае лёгкае. Выканаць – вось праблема. Я паабяцаў і забыўся, бо заўтра пачалося «заўтра». Рэдакцыйная мітусня, беганіна, званкі, запісы... Словам, я забыў і пра сваё абяцанне, і пра свайго маленькага чыноўніка.

Тыдні праз два я адправіўся па рэдакцыйным заданні... Не важна куды, але прашу верыць – установа вельмі высокая. Можа, нават адна з самых высокіх. У мяне праверылі пропуск, абмацалі, прагналі праз металашукальнік. І вось я асцярожна ступаю па

засланым дыванам калідоры, пачціва ўзіраюся ў шыльдачкі на дубовых масіўных дзвярах. І раптам бачу, як з адных такіх дзвярэй у канцы калідора выходзіць... Усё правільна, мой знаёмы!

Тут я, канечне, усё ўспомніў. І пачырванеў ад сораму. Чалавек чакаў, рыхтаваўся, а я... Я кінуўся да яго:

– Прабач, што падвёў, – добры дзень! Зусім з галавы вылецела! Каюся! Пакаяннай галавы меч не сячэ...

Ён спыніўся здзіўлены, строгі. Мая рука, працягнутая для вітання, засталася вісець у паветры.

– Ды кінь ты, – я вінавата дакрануўся да рукава яго пінжака. – Ну, другім разам прыеду. Зробім гэтае інтэрв'ю!

– Інтэрв'ю? Мы з вамі хіба дамаўляліся? – ледзяным голасам спытаў ён. Дастаў з кішэні бялюткую насоўку і высмаркаўся. – Сакратарка не дакладвала мне ні пра якія інтэрв'ю.

Я вылупіў на яго вочы. Ён што, здзекуецца?! Ці сапраўды так пакрыўдзіўся?! Але куды падзелася яго ўбогасць? Дзе касназыкасць яго? Спаважны, упэўнены, гаворыць як адсякае – зычна, правільна, куды там нашым дыктарам з радыё! Дзе касцюмчык яго шэранькі, паношаны, кашулька ў сінія палоскі? Апрануты, як кінаакцёр, як дыпламат: касцюм новенькі, гальштук стракаты, кашуля беленькая, здаецца, аж храбусціць-парыпвае накрухмаленым каўнерыкам, калі ён паварочвае шыю...

– Паслухай, а што ты тут робіш?! – нарэшце цюкнула мне ў галаву спытаць.

Ён гмыкнуў неяк дзіўна, зірнуў на мяне, нібы вагаючыся, ці варты я таго, каб напружваць з-за мяне галасавыя звязкі.

– Працую тут, – усё ж адказаў.

– Як... Як працую тут?! Калі ты паспеў?!

– Гм... Не так даўно. І прашу вас – калі не цяжка, завіце мяне на вы.

Ён павярнуўся і пайшоў па калідоры. У мяне закружылася галава. Сам не ведаючы навошта, паціраючы лоб і скроні, я паплёўся за ім. Ён без стуку піхнуў дзверы з шыльдаю «Спецатэльe», увайшоў. Я, нічому ўжо не здзіўляючыся, следам. Ён пакасіўся на мяне, але нічога не сказаў. Пры нашым з'яўленні з-за стала выскачыў лысы мужчынка, расплыўся ў прыемнай усмешцы:

– Даўно вас чакаю! Усё гатова. Сюды, калі ласка.

Яны зніклі за шырмаю. Я стаяў у дзвярах, прыхінуўшыся да вушака, і глядзеў на свой адбітак у вялізным, ад падлогі да столі, люстры. Знаёмы выйшаў даволі хутка. Новы касцюм сядзеў на ім як

уліты. Лысы мужчынка круціўся вакол яго, абіраючы з пінжака нябачныя парушынкі.

– Ну як? – звярнуўся раптам да мяне знаёмы.

Я толькі развёў рукамі.

– А мне не падабаецца, – заявіў ён. – Вось тут крыху цісне. І тут... А тут як бы адвісае... Не – пакажыце другі.

– Хвіліначку...

Ізноў зніклі за шырмаю, ізноў неўзабаве з'явіліся.

– А гэты як?

Асмялеўшы, і я ўжо стаў больш пераборлівым:

– Таксама не вельмі, – падступіў бліжэй, дзелавіта паспрабаваў у пальцах матэрыю. – Варсісты... Пыл будзе брацца.

– Не будзе.

– Чаму?

– У Нью-Йорку пылу не бывае, – спакойна адказаў ён. І да крануўца: – Гэты бяру.

Я адступіў на пару крокаў і, спатыкнуўшыся, упаў у крэсла, што стаяла ззаду.

– У якім... Нью-Йорку?! – прашаптаў я.

– У звычайным. Амерыканскім. Працаваць туды еду.

Ён спакойна забраў пакунак з касцюмам і моўчкі выйшаў, нават не зірнуўшы на мяне.

– Ды што ж гэта робіцца? – жаласліва прастагнаў я. – Спецатэлье, Нью-Йорк... Мы ж піва нядаўна пілі! Касцюмчык зашмальцаваны, чаравікі са збітымі абцасамі... Скарачаць яго збіраліся... Чаго ён тут?! Што ён тут робіць?!

– А вось што вы тут робіце? – падазрона спытаў кравец і, як мне падалося, зусім невыпадкова апусціў руку пад стол (магчыма, там была кнопка).

– Ды журналіст я, з радыё, вось пасведчанне...

– А-а, журналіст, – у яго голасе з'явілася лёгкая пагарда. – Тады тым больш трэба ведаць...

Ён пачціва назваў імя і прозвішча і паказаў пальцам на столь.

– А каб ён ляснуўся! Са сваімі касцюмамі і Нью-Ёркамі! – ускрыкнуў я, ляпаючы сябе па ілбе. – Гэта ж ледзь да вар'яцтва не давёў!

– Давай, давай, – сказаў лысы кравец, лёгенька прыпадымаючы мяне за плечы з крэсла і падштурхоўваючы да дзвярэй. – Тут чужым забаронена...

3.

Увечары таго ж дня мы з сапраўдным знаёмым – маленькім чыноўнікам – сядзелі ў бары і пілі піва.

– ...І вось калі ён сказаў: «У Нью-Йорку пылу не бывае», у мяне ўсё і паплыло перад вачыма! Як жа вы так? – упікнуў я. – Хіба ж можна быць такімі падобнымі?

– Ды я не ад цябе першага пра таго двайніка чую, – апраўдваўся знаёмы. – Я ж не вінаваты!

– А я думаю: ну, падвёў чалавека, але каб так пакрыўдзіцца, што рукі не падаваць!..

– Як ён з табою ўвогуле размаўляў, у атэлье прывёў?

– Ды ў тым і справа! Калі кравец назваў яго, я ўспомніў – успомніў, што гадоў колькі назад рабіў з ім перадачку – яшчэ калі ён тырчэў у нейкім чарнобыльскім камітэце! Напалову ён мяне пазнаў, таму, мабыць, і не паклікаў адразу міліцыянера.

*1998 г.*

## Сваяк

Пад раніцу ў мой салодкі сон уварваўся віск бензапілы.

Я падскочыў, затым схаваўся пад коўдру, накрыў галаву дзвюма падушкамі. Не памагло! Бензапіла не ўнімалася. Яна пілавала свае бярвенні недзе зусім блізка, яе аднастайна-цягучы віскат уядаўся не проста ў вушы, а ў самыя, здавалася, мазгі.

Сонны, я не адразу дапетрыў, што гэта ніякая не бензапіла, а проста хтосьці звоніць мне ў дзверы. Націснуў кнопку званка і не адпускае. Але мяне няма дома! Я памёр для ўсіх! Я чакаў, можа быць, гэтых выхадных, як салавей чакае лета. Сёння субота, учора жонка паехала да бацькоў, і я карыстаюся момантам – я хачу пабыць адзін. Напісаць рэцэнзію. Прыбіць палічкі пад кнігі. Падрамантаваць кран у ваннай. Ды мала што? Я хачу рабіць тое, што мне хочацца, – вось і ўсё!

А званок між тым не сціхаў, бы закляніла яго. Я ўсцягнуў на плечы халат і адчыніў дзверы. У парозе стаяў нізенькі чалавечак з вялікай спартыўнай сумкаю з рамянём на плячы. Па інерцыі палец яго ўсё яшчэ прыціскаў кнопку званка. Засцігнуты знянацку, чалавечак адскочыў і, гледзячы на мяне, вінавата заморгаў. Пракляты званок нарэшце змоўк.

– І сон жа ў вас, – ільсціва сказаў чалавечак. – Пазайздросціць можна!

– Хто... вы? – прахрыпеў я. – І што вам трэба?

На яго твары адбілася перш здзіўленне, потым крыўда:

– Няўжо не прызналі?! А вы лепш прыгледзьцеся... Нягожа сваякоў забываць. Я павярнуся вось так, бокам, у профіль. Паглядзіце яшчэ раз. Ну?

Прадраўшы сонныя вочы, я паглядзеў больш уважліва. Чорт яго ведае! Здаецца, недзе бачыў, ці то на фотаздымку, ці ў жыцці... Але не больш аднаго разу.

– Ну вось! – усцешыўся чалавечак, імгненна злавіўшы перамену на маім твары. – Я так і ведаў, што ўспомніце... Дык мне заходзіць?

– Што вы хацелі? – бесцырымонна перабіў я яго. Босым нагам холадна было на кафельнай падлозе.

– Па-першае, добры дзень, – сказаў чалавечак годна.

- Не дзень, а раніца. Без пятнаццаці шэсць!

– Хто рана, як кажуць, устае, таму, як кажуць...

– У такім разе маглі б яшчэ раней прыехаць, – з'едліва заўважыў я.

– Раней не мог – я першым аўтобусам.

– Але што здарылася? Чаму такая спешка?

– А раптам не застаў бы вас, – справядліва адказаў ён. – Мала куды вы маглі сысці. Дык я прайду, з вашага дазволу?

Я неахвотна адступіў, госць прайшоў, паставіў у кутку ў пярэдняй сумку, разуўся, усунуў ногі ў мае пантофлі.

– Ды не перажывайце вы так! – усклікнуў ён, зірнуўшы мне ў твар. – Выспіцеся яшчэ, жыццё доўгае! Я ж усё разумею. Са мною вам ніякага клопату не будзе. Я ветлівы, спакойны, ціхі, самі бачыце. Пабуду трохі – і цю-цю, толькі вы мяне і бачылі.

– Трохі – гэта, прабачце, колькі? Надоўга?

– Які вы, далібог, калючы! Жартаўнік! Чаму надоўга? Памыюся – і ўсё. У нас у цэнтры ваду па графіку адключылі, а лазню я не вельмі паважаю... Мітусня, людзей процьма, не зусім гігіенічна... А тут, у вас, памыюся сабе ціхенька і паеду. Ды вы ж мяне ведаеце!

Я хоць і не ведаў яго, але ўзрадаваўся:

– Ах, памыцца! Так бы адразу і сказалі. Мыйцеся на здароўе, ванна вашая.

Я сядзеў на кухні ўжо трэцюю гадзіну, машынальна калупаў пазногцем падцёкі фарбы знізу падаконніка і пазіраў у акно на такую блізкую і такую недаступную мне сонечную раніцу. А госць тым часам мыўся. З паўгадзіны ён, крэкчучы ад асалоды, шлёгаў сябе венікам, які прынёс з сабою ў сумцы. Яшчэ з паўгадзіны рабіў кантрастны душ – шум вады то заціхаў, то ўзмацняўся, а з ванны даносіліся крыкі, ад якіх я ўздрыгваў:

– Ух! Ах, ты! Гарачая пайшла! А цяпер халодная!

Потым ён спусціў ваду, напоўніў ванну свежаю і (мне так уяўлялася) пачаў ныраць. Ён станавіўся на край ванны, нейкі час набіраўся, відаць, адвагі і раптам, са страшэнным плёханнем, усім целам кідаўся ў ваду. Нарэшце, калі я ўжо адчаіўся спадзявацца, што гэтаму настане канец, усё сціхла. Госць паявіўся на кухні, вясёлы, распараны, захутаны ў мой любімы, жоўты ў сінія гарошыны, махровы ручнік.

Пакуль я выбіраў анучаю лужыны ў ваннай, папраўляў скручаны дарэшты кран, госць стаяў у дзвярах за маёй спінаю і казаў:

– Я дзе ні быў у гасцях, ніколі яшчэ нікога не пакрыўдзіў. Свіння той, хто чужы час не цэніць. Я ж разумею. Галоўнае – паважай людзей, тады і цябе будуць паважаць. Правільна?

Вярнуліся на кухню.

– Гарбаты? – спытаў я, ставячы на пліту чайнік.

– Гарбата само сабою, – ён хітравата падміргнуў мне. – А ці ведаеш ты першае правіла Суворава? Пасля лазні хоць украдзь – ды выпі.

– Але... у мяне няма. Пусты халадзільнік, можаце самі паглядзець. І ўвогуле...

– Хіба магазін далёка?

– Добра, – сказаў я. – Давайце грошы.

Ён вінавата закашляўся:

– Якраз з грашамі... кх-кх... праблемы...

– Добра. У мяне ёсць. Я выканаю ваша «суvoраўскае» правіла. Але абяцайце, што вы... не будзеце доўга! Я не чакаў гасцей! У мяне свае планы.

– Ды Бог з табою! Што ж я, сам не разумею? Пасяджу і пайду.

Калі я вярнуўся з крамы, госць прыняў з маіх рук сумку.

– Ану, што ў нас тут? – пачаў выкладваць на стол каўбасу, яйкі, памідоры. Адкаркаваў пляшку піва, адглынуў. – Рыбкі не здагадаўся купіць? – з дакорам упікнуў. – Ну, нічога... Піва, гарэлка... А дзе ў нас чарачкі? Ды сядай, што ты стаіш, як бедны сваяк! – запрасіў ён.

– Я не буду. Катэгарычна.

– Як хочаш. Мне больш дастанецца.

Я прыстроіўся на сваім месцы каля акна і панура калупаў фарбу знізу падаконніка. Госць, смачна крэкнуўшы, выпіў чарку гарэлкі, закусіў, лыкнуў піва.

– Цёплае, халера... Дык не будзеш?

– Не.

– А што ў цябе за такая пільная праца, што так гарыць?

– Мы хіба на ты? – толькі цяпер заўважыў я.

– Ды кінь – свае людзі! Якія цырымоніі... Не люблю. Чужым толькі на «вы» кажуць, а да свайго – непавага. Дык што за работа ў цябе?

Я не паспеў схлусіць, адказаў:

– Пісаць, напрыклад... рэцэнзію,– і чамусьці пачырванеў.

– Важны занятак!.. Так, слухай мяне. Цягні ручку, паперу, сядай збоку і толькі паспявай запісваць. Такога надыктую – ахнуць усе!

– Я вам хачу нагадаць... Вы абяцалі... крыху хутчэй! – голас мой сарваўся на фальцэт.

– Абяцаў – значыць, выканаю. Пачакай хвілінку...

Ён выйшаў. З беднай ваннай зноў раптам данёсся шум вады і нейкі падазроны плёхат. Няўжо яму мала?! Але на гэты раз сваяк даволі хутка пазаўся на кухні. Я атупела глядзеў на яго. Ён быў у адных трусах і ў шкарпэтках.

– А дзе... штаны?

– Замачыў у тазе, – спакойна патлумачыў ён, ладкуючыся да стала. – Ты ж ведаеш, у мяне вады гарачай няма. Ды і парашок пральны скончыўся. А ў цябе, гляджу, стаіць.

– Як жа вы без штаноў... паедзеце? – наіўна пралепятаў я.

– Ніяк. Пачакаць давядзецца.

Вусны ў мяне трэсліся ад гневу.

– Вы ўвесь час сцвярджалі, што вы ціхі, культурны чалавек! Што ўмееце цаніць чужы час! Дык вось, хачу вам сказаць, што вы – самы звычайны бесцырымонны хам, да таго ж хітрэц!

– А вось за такое, ведаеш, магу і пакрыўдзіцца. Якое на мне за злачынства? Вадою пакарыстаўся? Ды прыходзь да мяне, калі ўключаць ваду, і хоць цэлы дзень мыйся! Я слова не скажу. А тут, падумаеш, замачыў чалавек штаны. Не чужы, дарэчы, чалавек – блізкі... Ты пакрыўдзіў мяне. Моцна пакрыўдзіў! – з горыччу заключыў ён. – Я дзе ні быў у гасцях, а каб такое пачуць...

Мне стала няёмка.

– Даруйце... Што гэта я, сапраўды?

Увесь астатак дня сваяк бессаромна карыстаўся маёй часовай слабасцю. Як толькі яму пачынала здавацца, што я нечым незадаволены, ці сумны, ці няўважна яго слухаю, ці не зусім весела смяюся з яго анекдотаў, ён адразу ж не прамінаў нагадаць, што я вінаваты перад ім.

– Гэта ж расказаць каму – не паверыць! Ёсць людзі, якім вады шкада. А зімою што, снегу?

– Я ж папрасіў прабачэння, – вяла апраўдваўся я.

Мы згулялі ў шашкі, у карты, у даміно. Потым, калі госцю надакучыла, калі ён дапіў гарэлку і піва, я паслаў яму пасцель на канапе, і ён лёг спаць. Пад вечар прачнуўся, да ночы глядзеў тэлевізар. Раніцаю наступнага дня раскатурхаў мяне:

– Хто рана ўстае, таму, як кажуць... Дзе ў цябе прас і дошка?

Давялося ўставаць і шукаць. Ён доўга, старанна прасаваў штаны, якія, вымытыя, за ноч паспелі высахнуць на балконе. Затым папрасіў паснедаць, намякнуўшы на «суворaўскае» правіла... Але зірнуў мне ў вочы і паспешна прамармытаў:

– Усё, усё, не буду перашкаджаць... Прабачце, калі што не так, – сабраў сумку і, пасвістваючы, знік.

*2005г.*

**Пра патрон, самагонны апарат, чароўную кнігу і яшчэ сёё-тое...**

Упэўнены: усе беларускія вёскі абыйдзі — не знойдзеш такой, дзе б не пачаставалі цябе легендаю, як аднойчы аб’явіўся ў іх злодзей, які штоночы чужыя дровы краў, — пакуль не прыдумала якаясь разумная галава закласці патрон у паляняку.

У кожным мястэчку, дзе ёсць хоць самая задрыпаная забягалаўка, знойдзецца гісторыя, як некалі (часцей — пасля вайны) атуляўся ў гэтай забягалаўцы вялікі спрытнюга, — падыходзіў да стала, апускаў палец у чужы суп, падкідваў у кампот задушаную муху, або проста пляваў у макароны з катлетаю... Пасля чаго спакойна даядаў пакінуты гідлівым кліентам абед. Прычым рабіў гэта столькі разоў на дні, што ўсялякае ўяўленне адмаўляецца маляваць такога абжору.

У тым жа мястэчку вам раскажуць пра чалавека, які атрымаў неяк палучку аднымі новенькімі рублямі, трапіў пад дождж і дома ўзяўся сушыць грошы, расклаўшы па ўсёй кватэры. Тут зазірнуў сусед — ох-ах, што такое?

“Ды вось, машынку спецыяльную маю, нарабіў грошай, сушу”. Зайздрослівы сусед паведаміў у міліцыю. Прыязджаюць: “Дзе машынка?” — “Суседу пазычыў”, — не разгубіўся наш герой. Пайшлі да суседа і знайшлі ў таго самагонны аппарат.

Пры ўсім лубковым прымітывізме ёсць штосьці прывабнае ў гэтых карацельках. Можа, геаграфічны арэол іхняга распаўсюджвання — у кожнай вёсцы, у кожным мястэчку вам лёгка давядуць, што менавіта ў іх такое было, і прозвішчы назавуць, і хату ці кватэру

пакажуць, і дзесятак сведкаў у доказ прывядуць. А можа, падкрэсленая гаркота гэтага “шчасця” — выпаліць печ чужымі дрывамі, аб’едкамі ўволю паласавацца, быць уладальнікам мноства, хай сабе і невялікай вартасці паперак, заробленых мазалём і потам на якімсьці заводзе. А мо, як і ўвогуле ў вуснай народнай творчасці, класічнае напаўненне іх канцовак? Як у выпадку з паленам, дзе ў фінале двайны стрэл: незадачлівы злодзей, па-першае, выкрывае сябе, па-другое, адначасова нясе пакаранне — выбухам яму развярнула печ.

Альбо такая гісторыя. Жыў, ці, хутчэй, існаваў у адной вялікай вёсцы чалавек. Быў ён яшчэ не стары, але надта запушчаны. Увесь яго занятак заключаўся ў тым, каб з раніцы стаяць пад мясцовай крамаю, а ўвечары цягацца па хатах. Аднак з часам усё радзей пачалі пускаць яго далей парога, усё менш перападала яму славутай чаркі, яшчэ менш — шкваркі… І толькі адны дзверы заўсёды былі для яго адчынены — таго дома, дзе жыў яго стары школьны настаўнік. Гэты заўсёды яму памагаў. Відаць, наш герой быў для яго жывым дакорам, недарэчным прабелам школьнага выхавання, нягеглым коласам, што вылупіўся з разумнага, добрага і вечнага зерня, якое высейваў некалі шчодрай рукою настаўнік.

Вучань, трэба аддаць яму належнае, даверам стараўся не злоўжываць. Візіты рабіў не часта. Ён як бы прыберагаў гасціннасць гэтага дома для яшчэ горшых часоў.

Такія надыйшлі неўзабаве. І вось ён ізноў стаіць перад старым настаўнікам. Камечыць у руках шапку, пераступае нагамі, патлаты, нямыты, сіняносы… І мямліць, што далібог у апошні раз, што, маўляў, з панядзелка збіраецца пачаць новае жыццё, але перад гэтым напаследак хоча больш-менш па-людску правесці Каляды.

Выслухаўшы яго, настаўнік узяў са стала загадзя падрыхтаваную кнігу і сказаў:

“Калі цябе сапраўды мучыць не пахмелле, а прага новага жыцця — пачытай. Тут пра чалавека, яшчэ больш няшчаснага за цябе, але які ўсё ж знайшоў сілы выкарабкацца і ўваскрэснуць. І ўжо не ён прасіў, а ў яго прасілі. У гэтай кнізе твой паратунак”.

Разгублены наш герой лыпнуў вачыма, заціснуў кнігу пад пахаю і, не дзякуючы, не развітваючыся, пасунуўся па сваіх, аднаму яму вядомых справах.

Мінулі Каляды. З’яўляецца зноў перад настаўнікам — такі самы, не падобна, каб новае жыццё распачаў. Аддае кнігу. “Пачытаў?” — “Угу”. — “Знайшоў паратунак?” — “Не”.

“Ты яе, дарагі мой, нават не разгортваў”, — прамовіў стары настаўнік і дастаў перад ашаломленым вучнем з кнігі купюру —

дастатковую, каб не толькі адзначыць Каляды, а, улічваючы невысокія патрабаванні нашага героя, яшчэ і пахмяліцца.

Чалавек, які мне гэтую гісторыю расказваў, бажыўся, што ўсё гэта ў іхняй вёсцы было, і ён нават сам таму сведка.

*2005 г.*

## Быль

Расказаў адзін стары пісьменнік. Хрушчоўскія часы. У вёсцы няма школы. Знаходзіцца вялікая, на дзве палавіны, больш-менш прыстойная хата. У гаспадароў, канечне, дазволу ніхто не пытае, заносяцца лаўкі, сталы, вешаецца дошка... І калі ласка – вучыся, цягніся да ведаў!

Пры ўсім тым гэта школа як школа. З рознага ўзросту і полу дзятвой. Званкамі, урокамі спеваў, перапынкамі, віскам і лямантам, з бацькоўскімі сходамі і пакіданнем двоечнікаў пасля ўрокаў. А ўжо як жыць гаспадарам (а гэта ні зайсці, ні выйсці, ні паесці, ні прысесці, ні паспаць, ні прачнуцца) – іхні клопат.

Творыцца такое тыдзень, і два, і месяц, і тры месяцы. Быццам так трэба, і канца гэтаму не відаць.

Бедны гаспадар цярпеў-цярпеў, прасіў-прасіў сельсавецкае начальства, маліў-маліў старшыню калгаса, каб даў якой рады – без толку. Усё марна. Тады вось што кажа жонцы:

– Не памаглі людзі, дык мо хоць Бог паможа.

– Які Бог! Ты не верыў ніколі, ты ж найпершы грэшнік!..

Аднак, не зважаючы на жончыны крыкі, кемлівы чалавек здымае з паддашша абраз, які ці не ад рэвалюцыі пыліўся там і быў увесь паточаны шашалем. У суседзяў пазычае яшчэ некалькі. І вывешвае гэты іканастас «на покуці», каля школьнай дошкі, акурат за спінамі настаўнікаў.

Адразу пацішэла ў хаце. Цяпер з-за спіны настаўніка на дзяцей пільна, строга, з дакорам пазіралі вочы святых.

Неўзабаве прыязджае з раёна камісія. Заходзяць разам з мясцовым начальствам у хату... Мова ў іх адымаецца, ногі слупянеюць, вочы на ілбы вываройваюцца.

«Вы ўжо што?! Зусім падурнелі?!» – на старшыню, ды на сакратара сельсавета, ды на дырэктара, ды на настаўнікаў!

Усім хапіла.

«Вы пад якімі партрэтамі вучыце дзяцей у савецкай школе?! Адліга вам?! Забылі трыццаць сёмы?! Нагадаць?!»

Нагадваць не спатрэбілася. Умомант адмянілі ўрокі, ачысцілі хату, аб'явілі канікулы, сабралі талаку, нагналі тэхнікі, скідалі за якіх пару тыдняў новую школку… А гаспадар адваёванай хаты стаў перад покуццю і ўпершыню ў жыцці перахрысціўся.

*2007 г.*

## Вараняка

Жывёлы і птушкі – такія ж, як мы, толькі гавораць на іншай мове. І таксама, як людзі, яны хочуць, каб іх разумелі і шкадавалі.

Каля майго дома ў Мінску, у лесапаркавай зоне, у той частцы, дзе растуць высокія вольхі, селяцца вароны. Іх гнёзды на самых вершалінах. Людзі стараюцца абыходзіць гэтую “Варанячую Слабодку”, не любяць яе, а вароны ў сваю чаргу падымаюць гвалт і пачынаюць бамбардзіраваць памётам неасцярожнага разяваку, які апынуўся паблізу.

Кожнае раніцы, зімою і летам, птушкі з крыкам збіваюцца ў чароды і ляцяць у горад “на заробкі” – здабываць корм. Вечарам вяртаюцца не ўсе – вялікі горад поўны небяспекі. І марна будуць чакаць бацькоў галодныя птушаняты…

Адна варонка пакалечылася і прыйшла да нашага пад’езда. Як узрадаваліся бабулі, што сядзяць на лаўцы! Паставілі ёй талерачку, налілі малака, паклалі хлеб. Варона адшчыквае хлеб, кладзе ў талерачку, чакае, пакуль ён набрыняе малаком, есць. Усё гэта няспешна, з годнасцю – як чалавек. Адна бабулька глядзіць на яе і выцірае слёзы:

“Я такая ж адзінокая і гаротная, як гэтая варанячка!..”

“Воронамі” дражняць людзей няўважлівых, тугадумных. Усе мы добра ведаем байку пра варону, лісіцу і сыр. А вось сябар расказваў мне такую гісторыю. Кот грыз костку. Варона хадзіла побач і аблізвалася. Не могучы цярпець, зайшла ззаду і ўшчыкнула яго за хвост. Кот хвост падцяў, і грызе далей костку. Тады варона дзюбае яму ў спіну, кот рэзка паварочваецца, птушка ўзнімаецца ўгору, пералятае праз яго… Імкліва пікіруе – і з косткай у лапах нашай вароны як і не было!

А кот зрабіў выгляд, што нічога не здарылася.

*2009 г.*

**Шчыліна**

Канчалася лета.

Канікулы пачалі ўжо абрыдаць нам сваёй амаль першабытнай свабодай, такой жаданай, радаснай некалі ў маі, калі кожны дзень напоўнены быў чаканнем, што вось-вось павінна здарыцца нешта незвычайнае, а лета сабе прайшло – і нічога не здарылася.

Надакучыў футбол, вада з купаннем і рыбаю, лес з грыбамі і ягадамі, начныя гулі з латашэннем чужых садоў; нават нашая тайна прыелася – лясная зямлянка, класічна партызанская, са сценамі, нарамі, столікам з газоўкай, замаскіраваная зверху дзёранам, мохам і ігліцай так, што на ёй можна было стаяць і не здагадвацца, што пад табою жытло, з маленькім квадратным лазам, які адчыняўся, калі перакуліць прымацаваны да яго сухі хваёвы пень, – ужо і яна не радавала, як на пачатку лета, а хутчэй прыгнятала цемрай і душным, проста магільным пахам сырой зямлі.

За тры месяцы мы непрыгожа ўзмужалі, абраслі валасамі, скура некалькі разоў паспела злезці ад загару, целы нашыя былі ў сіняках і драпінах, галасы сталі грубымі ад цыгарэт. Мы многа, без патрэбы мацюкаліся, і ўсё ж самым частым, модным у нашым лексіконе было слова – сумна. Пачуўшы яго ад кагосьці са старэйшых хлопцаў, не ведаючы толкам, што яно азначае, мы, меншыя, ахвотна падхапілі яго і паўтаралі: так, сумна, вельмі сумна жыць на гэтым свеце!

І тут канец жніўня падараваў нам нечаканую забаўку. У вёсцы з’явіліся новыя людзі, пагарэльцы з суседняй вобласці, цэлая сям’я – старэйшая сястра аднаго з нашай кампаніі, Юры Меера, Валя з мужам і з двумя малымі дзецьмі. Блізкай радні там у іх не было, і вось яны часова, пакуль утрасуцца фармальнасці, усе гэтыя страхоўкі-кампенсацыі, знайшлі прытулак тут.

Меер расказваў – узарваўся газавы балон, веранду літаральна разнесла ў трэсачкі, потым за якую гадзіну, калі Мееру верыць, роўны споры агонь у такую сухмень злізаў хату, і драўляны гараж з машынаю, і куратнік, і хлеў з кабаном; толькі і ўратавалі, што дзяцей, ды з маёмасці – вясельны фотаальбом, прагарэлую на дзіркі коўдру і дзве патэльні.

Меер асабліва чамусьці ўпіраў на кабана як на самую важную дэталь, расказваў, як на ім жывым гарэла шчэць, на ўвесь двор пахла свежыною, ледзь не шашлыком (загаворваўся Меер), кабан нема, пачалавечы крычаў, і так і згарэў зажыва, а на двор не выйшаў.

– Не выганіш ніколі скаціну ў пажар!

Пасяліліся пагарэльцы ў Меераў у старой хаце, маленечкай, уціснутай у зямлю халупіне, што стаяла ля самых агародаў, у глухім кутку двара, і служыла для розных гаспадарчых патрэб – пад хлеўчык, клець, склеп... Адзінае яе падслепаватае акенца аддалёк – цераз увесь двор – з зайздрасцю пазірала на вуліцу, а з другога боку, за глухой сцяной адразу пачыналіся грады.

Неяк мы гулялі ў карты на выгане. Жнівеньскі дзень скончыўся, сонца села за хаты, прайшлі каровы з пашы, сыта і стомлена рыкаючы, але на выгане было яшчэ светла, толькі цені ад платоў, дрэў, ад калодзежа ўвачавідкі выцягваліся, і там, у гэтых ценях, трава цямнела, станавілася вільготнай ад расы і пачынала пахнуць, як толькі што скошаная. Падруліў на веласіпедзе Юра Меер; твар яго хітра, загадкава свяціўся.

– Гуляеце? Ну, гуляйце. А я пайду кіно пагляджу...

– Якое кіно?

Замест адказу ён падпёр спінаю веласіпед і ўзмахнуў аднachасова дзвюма рукамі, нібы адштурхоўваўся лыжнымі палкамі.

– Вось такое.

Там, у хатцы, растлумачыў ён, знізу, дзе страха падшыта, выцягваецца даволі шырокая дошка – акурат пралезці, і шчылінка ў столі, над самым ложкам...

– ...Лягай і глядзі сабе, усё відно, як у тэлевізары, нават і лепш...

– Ды не брашы ты!

– А калі я брахаў?

Уміг уявілася яго сястра Валя, гэтая зграбненькая, ладненькая беларуская немачка, бачылі ўжо неаднойчы, як па ваду хадзіла, у агародзе ракам калупалася... А тут так жвава, так заманліва паўстала перад вачыма ў іншым ракурсе!

Самы галоўны з нас, самы дужы, разумны і справядлівы, Анатоль, рашуча прапанаваў:

– Вось што, не я адзін – усе злазім. Па чарзе.

Меер замуляўся, з жалем прыцмокнуў языком – маўляў, і рад бы, ды не так ўсё проста.

– Бачыце, я гэта адкрыў... Гэта ж як-ніяк мая хата... І мая сястра... Так што, хлопцы, задарма цяпер дурных няма...

На ўсялякі выпадак ён ужо асядлаў веласіпед і трымаў нагу на педалі, каб у выпадку чаго ірвануць з месца.

– Што ты хочаш? – спытаў Анатоль.

– Грошы... Рубель за сеанс.

– Рубель?!

– Ну ты і!..

Аблізваючы сухія вусны, пазіраючы на яго ледзь не з нянавісцю звужанымі вачыма, Анатоль працадзіў:

– А калі я зараз пайду і скажу? Табе ж разам з дошкай галаву прыб’юць!

– Паджалуста. Ідзі. Кажы. Тады нікому не будзе. Ні мне, ні табе, ні дурной галаве, – спакойна закончыў Меер яшчэ адной сваёй дзіўнай прымаўкай.

– Ну што ж – абыдземся без цябе! Самі палезем...

– А тады я пайду і скажу. Вы мяне ведаеце. І заб’юць дошку. Ці самі здагадаюцца... Пойдзе дождж, пацячэ вада...

І праўда што. Маглі ж тую дошку і шчыліну і без нашай ці Мееравай падказкі ўгледзець. Пакуль суха, трэба карыстацца момантам.

– А калі я табе дам на ўсе гэтыя дні матацыкл? – збавіў абароты Анатоль.

– Нашто ён мне. Я і ездзіць на ім не ўмею, і бензін яшчэ недзе шукай. Носіцца, як дурны, упасці можна, пакалечыцца яшчэ не хапала, рукі-ногі пераламаць, – цвяроза, сур’ёзна разважаў Меер. – Ды і так – пакатаўся, і ўсё, а грошы застануцца... Карацей, хлопцы: мой тавар – ваш купец. Гуляйце, думайце... А я буду кіно глядзець.

І паехаў, пасеяўшы ў нашых душах поўную смуту. Мы гарачыліся, пляваліся, аблаялі яго як толькі можна, даказалі адзін аднаму, што гэта не хлопец, не мужчына, дружна вырашылі забыць і не мець з ім больш ніколі справы.

Няцяжка здагадацца, што назаўтра ўвечары, калі гэтак жа дружна зноў сабраліся на выгане, у кожнага ў кішэні было па рублю.

Меер наразаў вакол нас кругі на сваім веласіпедзе, а набліжацца баяўся.

– Учора паглядзеў кіно... Ну-у, скажу вам!.. Гэта нешта з нечым... Такога ў сне не прысніцца...

– На, – Толік кінуў папяровы рубель на траву. – Не грошай мне шкада...

Меер пад’ехаў, падабраў.

– У дзевяць роўна. Як праграма “Час” пачнецца. Я правяду, пакажу.

У дзевяць Меер з Анатолем зніклі ў прыцемках, потым Меер вярнуўся і, пакуль мы нудзіліся ў чаканні, забаўляў нас – падсмейваўся, ляпаў па плячах, пашчыкваў то аднаго, то другога, жартаваў, ламаўся:

– Вось так яно, хлопцы-казакі! А вы што думалі? Гэта вам не зямлянкі капаць!..

Нарэшце паказаўся Толік. Мы абступілі яго. "Дайце закурыць", – выціснуў ён перасельм голасам. І голас у яго быў зменены, і сам ён стаў нейкі іншы – у цемры не было відаць яго твару, але здавалася, што і твар змяніўся.

– Ну, хлопцы... Гэта праўда... Трэба самім бачыць... Я нават падумаць не мог...

З таго вечара Меер спраўна пачаў збіраць грошы. Хлопцы, што пабывалі на гарышчы, ніводзін не шкадаваў, кожны вяртаўся шчаслівы, узбуджаны, вось толькі паводзіны ва ўсіх былі нейкія падазрона аднолькававыя: просьба закурыць, зменены голас, у якім лёгкая пагарда да тых, хто "кіна" яшчэ не бачыў, і амаль адны й тыя ж словы: "Ну і ну... Я і не чакаў!.."

На чацвёрты вечар прыйшла мая чарга. Пакуль Меер вёў мяне разораю, па якой слаўся тоўсты бульбоўнік, і кеды, і калашыны штаноў знізу сталі мокрымі. Каля сцяны ён адсунуў дошку, падсадзіў мяне, ушчыкнуў на развітанне і прашаптаў: "Ды цішэй там, столь не праламай!"

Я палез. Прашмыгнуў наверх. Цёмна. І чуваць прыглушаныя галасы знізу. Выцягнуўшы руку, я пайшоў у напрамку коміна. Да падэшваў адразу наліпла па кілаграму пяску і ад таго ступалася мякка і зусім ціха. Шчылінка ледзь свяцілася. Я прыпаў да яе; пясок пад рукамі і пад шчакою быў цёплы, як сонечным днём на беразе возера, – відаць, нядаўна палілі грубку і ён нагрэўся ад коміна.

То адной, то другой шчакою я прыпадаў да гэтага цёплага пяску, адным і другім вокам заглядваў... Лямпачка гарыць, тэлевізар ідзе. Дзеці... Стол, вячэра... "Не плямкай, калі ясі"... Размовы. "А я ўсё адно з'езджу... Жыць неяк трэба..." "Не бяруць туды... сюды..." Святло выключылі, тэлевізар ідзе ціха... Дзеці спаць леглі. "Алік, закрыйся ад сцяны... Аньцы дзьмуць будзе"... Звычайныя такія словы. Буднія, простыя дзеянні. Ніякага намёку на оргіі.

Я нічога не разумеў – лепш сказаць, даўно пачаў разумець, як проста і геніяльна Меер усіх нас надурыў. Мяне трэсла ад злосці. Але была яна не столькі на Меера, колькі на тых, што лазілі раней, да мяне.

Я спусціўся, выйшаў на вуліцу.

– Вось, папытайце ў яго, калі хто яшчэ не верыць, – завіхаўся вакол Меер. – Хто-хто, а ён не збрэша!

Так гэты гад-псіхолаг казаў пра кожнага, і кожны ўсцешваўся, што менавіта ён эталон праўды, і не падводзіў Меера.

Я хаўкнуў, уздыхнуў, збіраючыся з духам... І, замест таго, каб рассмяяцца, хоць бы словамі выкрыць іх усіх, збянтэжана выціснуў звыклае:

– Клас, хлопцы… Гэтага не раскажаш… Ніколі б не падумаў…

– Ну, хто наступны? – не губляў часу Меер. – Варушыцеся… Давайце, пакуль дзірку не зашылі…

Так мо яшчэ з тыдзень мы кожны вечар лазілі на гарышча. Калі ж адзін з нас, самы тупы, без уяўлення, хлопец захацеў справядлівасці і кінуўся да Меера біцца і спраўляць назад грошы – не далі, разнялі. І працягвалі лазіць. Мы ўжо цудоўна ведалі, што падманваем адзін аднога, але ніхто так і не сказаў праўды.

Чаму? Ці толькі таму, што сорамна было прызнацца, што глядзець нявáрта, і тым самым неяк прынізіцца і расчараваць іншых? Ці то была звычайная перастрахоўка: мо гэта мне не пашанцавала, а іншыя *ўсё* бачылі? Ці мо ў нас адгукаліся нейкія генныя парэшткі яшчэ пячорнага, паляўнічага азарту, калі няважна, за кім цікуеш, абы ён не здагадваўся пра гэта?

Ці проста мы, неабчэсаныя вясковыя падлеткі, усё ж у глыбіні душы адчувалі, што ўся наша грубасць, цынізм, “самота” і розная іншая “стамлёнасць жыццём” – усяго толькі дурнаватая, несур’ёзная гульня, а вось гэты кавалачак падгледжанага ў шчылінку чужога жыцця, звычайныя абставіны, простыя людзі, дзіця, якое просіць цукерку, падтыканне коўдры, сціплая вячэра – і ёсць нешта сапраўднае, жывое, невядомае яшчэ нам, але да чаго нас падсвядома цягне? І ўжо як мінімум рубель яно каштуе…

А потым пайшлі дажджы, гаспадар палез латаць дзіравы дах і заадно падшыў знізу добрымі цвікамі-“соткамі” дошку, і ўсе шчыліны ў столі заканапаціў.

Восенню, у канцы верасня, мы вярталіся са школы і ўбачылі, што Меерава хатка, якая была так памаладзела, пахарашэла, засвяцілася, зноў стаіць асунутая, згорбленая, сіратлівая, з забітым крыж-накрыж акенцам – пагарэльцы з’ехалі. За хаткаю палілі кучы сухога картаплішча. Бялёсыя слупкі дымоў падымаліся роўна ў неба. Гарэў і соладка пах на развітанне той самы бульбоўнік, які, здавалася, яшчэ зусім нядаўна, на нашых вачах прабіваўся з майскай зямлі пяшчотна-салатавымі парасткамі, мацнеў, рабіўся пругкім, упэўненым, цвіў белым і фіялетавым кветам, потым спаважна тырчэў высокім лапушыстым картаплянікам – гэткай дзівоснай заморскай двухплоднай раслінай: зверху зялёныя маленькія “памідорчыкі”, а знізу, у цёплай зямлі, шурпатыя крухмальныя клубні… І вось ён аджыў сваё, памёр,ператварыўся ў сухія непатрэбныя сцябліны…

І толькі цяпер мы зразумелі, што гэта ж прайшло яшчэ адно наша лета.

*2010 г.*

# ТУПІК

## I

Расказвалі, што ў дзяцінстве, гадоў да сямі, гэты Т***у***пік (з націскам на першым складзе) быў незвычайна адораны – мог прагартаць кніжку, адкласці ўбок і ўсё чысценька, слова ў слова паўтарыць па памяці. Але аднойчы ў вёсцы ўпаў з воза з сенам і пашкодзіўся розумам. Цяпер яму было гадоў трыццаць, ён жыў разам з маці ў райцэнтры, у пяціпавярхоўцы на плошчы каля ўнівермага “Белы лебедзь”, і з’яўляўся ўпрыгожаннем нашага горада, яго візітнай карткай.

Высокі, тоўсты, вельмі дужы, як і ўсе яны, каму фізічнае здароўе даецца ў кампенсацыю за псіхічны дэфект, з ярка-чырвонымі, як у снегіра, шчокамі на мардатым твары – але калі хто па няведанні рабіў яму камплімент: “Які ты, Косця, сёння румяны!” – у адказ замест падзякі атрымліваў плявок і крык:

– Гэта толькі вы здаровыя ды румяныя! А ў мяне даўленне баліць!

Плошчу абступалі прамтаварныя і прадуктовыя крамы, непадалёку былі два кінатэатры, вялікі базар і парк з атракцыёнамі, а таксама аўтобусны вакзал. Плошча была цэнтрам мястэчковага жыцця. Усе дарогі сцякаліся сюды. Куды б хто ні йшоў, абмінуць яе не мог, як і не мог не пабачыць на ёй Тупіка – нязменнага, як помнік Леніну, з той розніцай, што апошні заўсёды стаяў, а Косця заўсёды быў у руху – ён хадзіў і шукаў пад нагамі капейкі. Цэлымі днямі ў любое надвор’е ён не стамляўся наразаць кругі каля вакзальных і атракцыённых кас, швэндаўся на гаманкім базары, заходзіў у кінатэатры, крамы ці проста тупаў узад-уперад па тратуары – вочы долу, бы грыбнік у лесе. Казалі (канечне, ад зайздасці, бо хто мог падлічыць?), што асабліва ў святы яму набягае ў дзень як муляру на будоўлі.

Апрануты ў ваенны фрэнч, з-пад якога выглядвала вышытая беларускім арнаментам сарочка; штаны былі такія прасторныя, што ў іх маглі ўлезці тры нармальныя чалавекі, і кароткія, як брыджы – калашыны пачыналіся там, дзе канчаліся шкарпэткі – высока падцягнутыя, з тугімі гумкамі, што ўрэзваліся ў белыя, поўныя лыткі. Лацканы фрэнча з двух бакоў, ад каўняра да нізу, адвісалі пад цяжарам розных значкоў – столькі многа ён іх начапляў, у асноўным армейскія, выдатнік “ГТО”, “Ударнік камуністычнай працы”, разрады па розных відах спорту, акцябронскія, піянерскія, камсамольскія – карацей, вешаў на сябе ўсё, што блішчыць. На кожнае 9 мая Тупік займаў месца сярод ветэранаў у святочнай калоне, расквечанай

сцяжкамі, галінкамі з зялёным лісцем і белымі кветкамі, рознакаляровымі паветранымі шарыкамі, – і так і йшоў пад гукі пераможнага марша, – сур’ёзны, важны, з гонарам нёс ношу чужога подзвігу, а калі калона ўступала на плошчу і параўноўвалася з трыбунаю, і людзі пачыналі пляскаць у ладкі і крычаць “ура!”, ён надзімаў шчокі і глядзеў прама перад сабой. Гэты “ардэнаносны” фрэнч ён не здымаў ніколі. Хіба што ў самую непагадзь накідваў зверху целагрэйку, і тая была расхлістана, без шаліка, каб здалёк відаць былі “ўзнагароды”. Ды яшчэ ў залежнасці ад сезону мяняў абутак: хатнія тапкі на кірзавыя боты. І абавязкова галаўны ўбор – лыжная шапачка, нават у цёплую пару года. На заўвагу: “Хіба табе, Косця, не душна?”, – ён на ўсю плошчу заяўляў:

– Абы вам, здаровым ды вучоным, не было душна! Мне мая галава даражэй за вашыя!

Не было ніводнай зімы, каб ён не паміраў. Як толькі стукалі маразы і снегу навальвала столькі, што ён рабіўся шчыльным і ляжаў паабапал прабітых дарог вышынёю ў чалавечы рост, так разыходзілася па горадзе і ваколіцах сумная вестка: “Чулі, Косця Тупік памёр... Замёрз, небарак, у пад’ездзе... Матка не пусціла ў кватэру... Пахавалі добра, з музыкай...” Аднак наставала вясна, і ўваскрослы, як фенікс, падлечаны ў псіханеўралагічным дыспансеры Косця бадзёра тупаў у гастраном з сеткай з парожнімі малочнымі бутэлькамі, – перасякаў плошчу, як ні ў чым не бывала, махаючы сеткаю, а напрактыкаваныя вочы так і шнырылі па тратуары, ці не блісне дзе капейка.

– Я спакойны! Я спакойны! – голасна папярэджваў ён.

Але было ў яго самае слабае месца. Чамусьці ён панічна баяўся, не мог пераносіць “вучоных” слоў, такіх, як кніга, школа, падручнік, заняткі, урокі, сшытак, папера, дошка, крэйда... Яны проста выводзілі яго з сябе. Відаць, пасля таго няшчаснага выпадку – падзення з воза – у галаве ў яго нешта пераклініла, і ён пачаў суадносіць сваю хваробу не з уласна падзеннем, не з тым, што моцна стукнуўся патыліцай аб глебу, а з кнігамі, якія ён так некалі любіў, а цяпер менавіта ў іх бачыў корань зла, іх лічыў прычынай сваёй бяды, а таксама і ўсё, што з кнігамі звязана, – напрыклад, цярпець не мог чужой дзелавітасці. Дастаткова было любому абалдую проста так, ад няма чаго рабіць наблізіцца да яго, дэманстратыўна зірнуць на гадзіннік, з уздыхам прамовіць: “Дзела, Косця!.. Праблемы!.. Спазняюся!”, – як Тупік пачынаў непакоіцца, азірацца, перабіраць пальцамі свае значкі... Падцягваліся яшчэ цікаўныя, ахвочыя да бясплатнага канцэрта; а калі ўжо збяруцца да кучы людзі, аб’яднаныя агульнай мэтай, іх нічога не спыніць – давядуць справу да канца,

асабліва ў такім жыццёва важным мерапрыемстве, як цкаванне бліжняга свайго.

Садысты даймалі яго паступова, расцягваючы асалоду, памаленьку вярэдзілі, калупалі яго рану, то даючы ёй трошкі зацягнуцца, то зноў шчодра бухаючы на яе порцыі солі.

– Ну што – пастаю ды ў інстытут паеду, – пазяхаючы, казаў адзін.

– А я ў тэхнікум, – другі.

– А я – у кансерваторыю, – трэці.

Спачатку Тупік як мог трымаўся. Гладзіў сябе па сэрцы, прасіў: “Косцечка, не валнуйся, не абрашчай уніманія”, – ды надта няроўнай была барацьба. Канечне, самае лепшае для яго было б – хутчэй даваць лататы, але ўжо яго галава плыла, і ён не мог дадумацца нават да гэтага, а толькі мітусіўся, як кура на вуліцы перад машынай; да таго ж ужо яму перакрывалі шляхі да адступлення, акружалі, бралі ў аблогу.

– Хутка восень... У школу пара... А ты парфель купіў? – пыталіся як мага больш ласкава.

– Адчапіцеся, здаровыя ды разумныя!

– А пенал?

– О-ох, як вы мне ўжо абрыдлі!

– А ты многа капеек на школьную форму назбіраў?

– Невыносна! – пакутаваў ён. – З вамі трэба жалезныя нервы, а яны ў мяне так баляць!..

У вачах у Тупіка з’яўлялася туга. Яму не хапала паветра. Ад адчаю ён пачынаў кусаць уласную руку – моцна, па-сапраўднаму, да крыві, каб фізічным болем перабіць душэўны. А народ тым часам толькі ўваходзіў у азарт. Публіка абступала яго шчыльней. Ужо зусім не лагодна, а пагрозліва, з прытупваннем, неслася і спераду, і ззаду, і з бакоў: “Ану ў акадэмію!” – “На курсы!” – “У прафесуру!” А ў каго не хапала фантазіі, дык той проста:

– Дзела... дзела... дзела!..

Кожнае слова рэзала Косцю тупым нажом. Нарэшце яму ўдавалася прарваць ачапленне; ён закрываў галаву рукамі і кідаўся ўцякаць. Звінелі значкі на фрэнчы. Ахоплены жахам, Тупік бег па тратуары, уголас роў, грыз да крыві руку, размазваў па шчоках смаркачы, кроў і слёзы, ціснуўся да сцен, шукаў дзвярэй, якой шчыліны, каб праціснуцца, якой падваротні ці прахаднога двара... А ззаду і па другім баку вуліцы, ахопленыя першабытным шалам, за ім гналіся, свісталі, ўлюлюкалі:

– А-та-ту яго!

– Трымай!
– Не давай павярнуць!
– Перакрывай дарогу, гані да школы!

Хто б куды ні йшоў, далучаліся да пагоні. Бегла малое дзіця, спяшалася маладзіца з каляскаю, клыпаў пенсіянер, нават шафёр маршрутнага аўтобуса – і той тармазіў пасярод вуліцы і высоўваўся з кабіны, усім сваім выглядам паказваючы намер выскачыць і таксама прыняць удзел у аблаве. Нарэшце спакутваны, выматаны Тупік не мог больш уцякаць. Ён сядаў на асфальт і пачынаў разувацца. Сцягваў боты, размотваў парцянкі... Пры гэтым плакаў, кусаў руку і стагнаў праз слёзы.

І толькі тады людзі патроху пачыналі супакойвацца. Салодкі шал ападаў, узбуджэнне праходзіла, саступаючы месца шкадаванню і спагадзе.

– Прастудзіцца ж... босы на халодным...
– "Хуткую" каб хто выклікаў...
– Бач, бедны, як яго круціць...
– Шкада небараку...

Тут кожны раптам успамінаў, што і праўда трэба спяшацца. І людзі, апусціўшы долу вочы, разыходзіліся па сваіх справах.

**II**

Потым Тупік прапаў. Знік гады на тры. Можа, адправілі ў абласны цэнтр на лячэнне, а мо сапраўды замёрз. І горад, і плошча неяк асірацелі без яго, страцілі кавалачак свайго антуражу – нават гранітнаму Леніну ў цэнтры цяпер яшчэ больш адзінока было вось так стаяць дні і ночы напралёт і сціскаць у працягнутай руцэ кепку.

Што да мяне, дык я паступіў на першы курс тэхнікума і цяпер пажынаў плады гарадскога жыцця. А менавіта – уволю мог блукаць гуляць па любімых вуліцах і бульварах. Даўно быў верасень, а ўсё вакол зелянела, як у ліпені, нават пахла летам. У парку кружыліся каруселі, звінеў смех, булькаў фантан, зіхацелі вясёлкавыя іскрыстыя пырскі; па Прыпяці яшчэ бегаў прагулачны цеплаходзік і на яго палубе па-летняму адзетыя людзі елі марожанае і махалі рукамі тым, хто заставаўся на беразе. Аднойчы пад вечар у парку мяне акружыла мясцовая шпана, чалавек пяць майго ўзросту.

"Давай капейкі!"

Пакуль я калупаўся ў кішэнях, а думкі ліхаманкава скакалі: адкуплюся ці не?! ці гэта толькі пачатак?! – пакуль выграбаў з кішэняў усё, што можна, іхні камандзір, падобны на сімпатычнага Цімура з гайдараўскай аповесці, у адной руцэ трымаючы цыгарэту, у

другой – яблык, зацягваўся дымам, кусаў яблык і яшчэ паспяваў чытаць мне кароткую інструкцыю на тэму, як паводзіцца ў горадзе: “Калі ідзеш па вуліцы – не бегай вачыма, глядзі прама, не трымай рукі ў кішэнях, тым больш не звіні там капейкамі...”

Раптам ён падавіўся дымам і яблыкам, закашляўся, замоўк і неяк дзіўна, круглымі вачыма на мяне паглядзеў. І ўся яго каманда аслупянела. Яны ўсе глядзелі не на мяне, а некуды праз мяне – нібы я па жаданні якогась добрага чараўніка паступова рабіўся нябачным, раставаў у паветры. Мая працягнутая рука з белымі і жоўтымі капейкамі вісела ў паветры. Я даваў, а яны не бралі. Я нічога не разумеў. Тады я здагадаўся азірнуцца і ўбачыў ззаду Косцю Тупіка. Ён стаяў адразу за мною, трымаючы над галавой чугунную урну, адну з тых класічных, паркавых урнаў вагою ў паўцэнтнера. Урна пагрозліва калывалася, з яе Тупіку на шапку, на плечы сыпалася розная дрэнь, смецце; прыліплы да краю, звісаў з урны доўгі серпантын каўбаснай шкуркі. Рукі ў Тупіка дрыжэлі, як у штангіста, самога яго вадзіла трошкі ў бакі, у такт ціха пазвоньвалі “ўзнагароды” на знаёмым фрэнчы.

– Я... спакойны! – праз сілу папярэдзіў ён, а бялкі вачэй у яго былі чырвоныя ад намагання, і з куточка рота сачылася сліна.

Шпана нехаця адступіла. Адзін з бяспечнай адлегласці крыкнуў: “У школу!”, а не спрацавала – Косця быў якраз падлечаны. Ён бохнуў на месца урну і пачаў атрасацца.

Цяжка сказаць, з кім мне было страшней: з рабаўнікамі ці з выратавальнікам... Я ўжо яму працягнуў руку з капейкамі. Вочы ў Косці пацяплелі. Было відаць, як яму хочацца згрэбсці ўсё адразу. Але стрымаўся, вывудзіў тоўстымі пальцамі толькі 20 капеек.

– Мне што – я спакойны, – дабрадушна сказаў ён на развітанне, паціснуўшы тоўстым плячом.

Яшчэ праз тры гады ўжо мне надарыўся выпадак аддзячыць. Неяк ранняй вясной я стаяў у парку каля фантана, нежывога яшчэ, і раптам убачыў, а галоўнае, пачуў, як два раз’ятраныя валацугі гоняць па пустой алеі Тупіка. На ім была бальнічная піжама раскветкі вагоннага матраса. Хутчэй за ўсё ён выйшаў з аддзялення падыхаць свежым паветрам і – трэба ж! – натыкнуўся на прыгоду.

– У школу!.. маць-маць! – крычалі валацугі вантробнымі галасамі, ад якіх стыла ў жылах кроў.

Тупік уцякаў па алеі, па газонах, дзёрся праз падстрыжаныя дэкаратыўныя кусцікі ростам яму па калена, прысядаў у іх, каб схавацца, – вялікі, няўклюдны, потым зноў падхопліваўся і бег –

напалоханы, адурэлы, хапаўся за сэрца, глытаў паветра... З пакусанай рукі цякла кроў, твар быў чырвоны і мокры ад слёз.

– О-ох!.. Людзечкі!.. Што ж гэта робіцца ў белым свеце?!.

А валацугі даганялі яго і па чарзе, з разгону, як у футбольны мяч, білі ў шырокі падатлівы зад.

– За парту! Вучыцца!

Бывае, вялікі загнаны звер кідаецца да малога і знаходзіць ратунак. Я быў сведкам, як пашкамутаны сабакамі кот ірвануўся да маленькай курыцы, а тая адважна распушыла крылы і захінула яго. Тупік проста забег мне за спіну і прысеў, затаіўся. Са звычайнымі людзьмі валацугі не надта любяць звязвацца, а я быў звычайны чалавек. Яны патапталіся, пабурчэлі і пайшлі. Уратаваны Косця падняўся, ён плакаў і лізаў руку.

– Ад розуму... вялікага! – усхліпваючы, крыкнуў ён.

– Ды які там розум...

Толькі калі я даў яму 20 капеек, ён пакрысе супакоіўся і асцярожна пайшоў назад у бальніцу. То была наша апошняя сустрэча. Так атрымалася, што пасля я цэлых 20 гадоў ні разу не быў у сваім горадзе.

**III**

І вось нарэшце я зноў тут.

Як і 20 гадоў назад, вельмі цудоўная стаяла восень – ранні верасень. Лісце з дрэў яшчэ не падала, але паўсюль было чамусьці вельмі многа дворнікаў, мужчын і жанчын, і зусім маладых дзяўчатак; у сваіх аранжавых камізэльках яны шчыравалі дзяркачамі, як на касьбе, – толькі і чулася: шорг-шорг-шорг.

Дарожку, па якой я крочыў у цэнтр, як алею, абступалі каштаны. Некаторыя цвілі па другім разе, дзе-нідзе з іх тырчэлі хворыя свечачкі, а з саміх дрэў што-раз падалі і разбіваліся аб асфальт калючыя плады – нагінайся, падымай бясплатны сувенір ад восені!.. Дарожка ішла ўздоўж ракі. Унізе ляжала набярэжная, а яшчэ ніжэй цякла сабе вечная Прыпяць. Колькі ж вады ў ёй за гэты час сплыло!..

На плошчы я абышоў вакол помніка Леніну, завярнуў у ціхі дворык, сеў на лаўцы пад каштанам. У дворыку нікога не было. Стаяла толькі трансфарматарная будка, ды два жалезныя слупы з нацягнутай паміж імі вяроўкаю, на якой сохлі навалачкі, плюшавы заяц і дзіцячыя паўзункі. І раптам так сумна зрабілася ад таго, што жыццё амаль прайшло, а тое, што засталося, не жыццё, а суцэльнае змаганне, якое столькі забірае сіл, што іх ужо не хапае на радасць ад самога жыцця... У гэты момант дзверы крайняга пад’езда расчыніліся

і, як ні ў чым не бывала, уласнай персонай выйшаў з сеткаю ў руцэ Косця Тупік.

Я ўскочыў з лаўкі і працёр вочы. Ну, ён! У белым пінжаку, з-пад якога выглядвае вышыванка. Чорныя штаны спераду налазяць на насы сандаляў, а заднікі свецяцца голымі пятамі. Ён! Такі ж чырвонашчокі, мардаты – яны ж не змяняюцца знешне, а як бы застываюць у раз-назаўсёды набытай форме. Толькі яшчэ больш паправіўся: жывот адвісае з-пад рэмэня, і "маланка" ў крэсле не сыходзіцца. На галаве ў яго была сіняя бейсболка казырком назад.

– Косця!

Ён спыніўся. Я падбег да яго. Мы стаялі адзін насупраць аднога, два асколкі мінулага... Нібы і не было гэтых шалёных дваццаці гадоў. І падалося – а мо яшчэ не позна; можа, удасца адшукаць і вярнуць тое, што ўжо і не помніш, як яно называецца, а ведаеш толькі, што яно вельмі важнае, можа быць, самае дарагое ў жыцці?..

Радасць агарнула мяне:

– Косцік, я...

І пакуль я падбіраў у думках словы, каб выпадкова не ляпнуць чаго-небудзь звязанага з "вучонасцю", адбылося наступнае. Тупік паставіў долу сетку. Выцягнуў з нагруднай кішэні пакамечаную насоўку. З яе – маленькі дзіцячы тэлефон. На твар яго легла заклапочанасць. Косячыся на мяне, Тупік націснуў кнопачку тоўстым пальцам. Калі цацка адпішчала мелодыю з мультфільма, Косця загаварыў у трубку (а сам краем вока пазіраў на мяне):

– Алё, я спакойны! Мне ж яшчэ трэба ў офіс! У мяне ж бізнэс! У мяне ж там поўна бумагі! Мне ж яе трэба падпісваць! Пячаткі на яе ляпаць!..

Загарнуў свой тэлефон у насоўку, паклаў назад у кішэню, падняў сетку і пайшоў – паходкаю алігарха, якога за вуглом чакае лімузін. Пакінуўшы мяне, прыніжанага, з разяўляным ротам глядзець яму ўслед.

Бог ты мой! Столькі за гэтыя гады ўсяго адбылося! Столькі новых слоў хлынула, як з прабітай плаціны! Колькі "здаровых ды разумных" пазакручвала ў бурах, падмяла, паламала, змыла без следу!.. І сам я, калі зрэдку ўспамінаў пра Тупіка, дык толькі ў мінулым часе: быў, хадзіў, жыў... Я ні на хвілю не сумняваўся, што яго даўно няма на свеце; ды адна толькі новая кашмарная лексіка – ад "перабудоваў" да "айпэдаў" – павінна была ўмомант даканаць яго!

А ён ацалеў. Выжыў. Змог разабрацца, што яго знішчае, у шматкі рве яго нервы і крывяніць душу; перш здагадаўся, а потым і скеміў, што клін выбіваецца клінам, падобнае лечыцца падобным, і

змог ператварыць ворага ў сябра, сам пачаў карыстацца незразумелай, а таму страшнай зброяй – “вучонымі” словамі, і гэтым абясшкодзіў іх. Тое, што яго дабівала, ён паставіў сабе на службу. І перамог! Па-свойму дабіўся ў жыцці поспеху...

І тут мне стала крыху сорамна за нядаўнія думкі пра марнасць барацьбы. Як прыйшло, так і знікла адчуванне жыццёвага тупіка, і лёгка задыхалася, і ціхая лагода падступіла да сэрца... Дзякую, Косця, ты мне вельмі дапамог!

На асфальце вакол лаўкі і пад ёй ляжалі каштанавыя шарыкі, вылузнутыя са сваёй калючай абалонкі – такія ўжо глянцавыя, крышку яшчэ вільготныя, і так ужо яны прасіліся, хітрыя, у руку: ну, толькі глянь, які я ладненькі, гладзенькі, чысценькі! ну падымай мяне хутчэй, аднясі далей, выкінь, я прарасту, і род мой працягнецца, ну, калі ласка... Вось сімпатычная, бяскрыўдная барацьба за выжыванне! І асабіста я – за такую.

*2012 г.*

# ЗМЕСТ

## **Аповесці**

Ціша…………………………………………………………………… 2
Дзядзька Адольф……………………………………………………… 74

## **Апавяданні**

Імгненні жыцця……………………………………………………… 148
Госць…………………………………………………………………… 155
Трусікі…………………………………………………………………… 164
У Нью-Ёрку пылу не бывае……………………………………… 168
Сваяк…………………………………………………………………… 173
Патрон, самагонны аппарат, чароўную кнігу і яшчэ сёе-тое… 178
Быль…………………………………………………………………… 181
Вараняка……………………………………………………………… 183
Шчыліна……………………………………………………………… 184
Тупік…………………………………………………………………… 191